ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 48 (2574)
ПЯТНІЦА
26
лістапада 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

29 ЛІСТАПАДА ПАЧЫНАЕ РАБОТУ З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Стар. 3

КРЫТЫКА. ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ
*Працяг размовы. Выступаюць В. Бечык, А. Майзон, А. Вярцінскі*
Стар. 4—5

БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА І МУЗА
Стар. 6—7

«ЗАЛАТАЯ КАРЭТА»
*на сцэне Гомельскага тэатра*
Стар. 8

ПРАЦУЕ Ў ГРОДНЕ КУЛЬТАСВЕТВУЧЫЛІШЧА
Стар. 9

Расул ГАМЗАТАЎ — ПА-БЕЛАРУСКУ
Стар. 10

БЛІЗКАЯ ДАЛЁКАЯ ПОЎНАЧ
*Нарыс А. Дракахруста*
Стар. 12—13



Мінскі кацёл... Сакрушальны ўдар Першага Прыбалтыйскага, Першага, Другога і Трэцяга Беларускіх франтоў па нямецка-фашысцкіх захопніках на паўднёвым усходзе ад сталіцы рэспублікі... Гэта было ў ліпені 1944...

Кульмінацыйнаму моманту бітвы прысвечана дыярама, створаная мастакамі Б. Аракчэевым, П. Крахалёвым, У. Лагуном, Л. Асядоўскім для Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Пра дыяраму, фрагмент якой вы бачыце на здымку, чытайце на стар. 11.

# ПЕРАД З'ЕЗДАМ БТА

**Дваццаць пяць гадоў назад Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову «Аб арганізацыі Беларускага тэатральнага аб'яднання». З той пары гэта творчая арганізацыя заваявала прызнанне грамадскасці як аб'яднанне аўтарытэтных і прафесійна дасведчаных дзеячоў сцэны, здольных ўплываць на тэатральнае жыццё рэспублікі. БТА абапіраецца ў сваёй дзейнасці на вялікі атрад ветэранаў беларускай сцэны, якія самі здабывалі ёй славу і стваралі традыцыі, застаючыся сапраўднымі наватарамі ў творчасці. Праводзяцца канферэнцыі, на якіх практыкі і тэатральныя крытыкі па-навуковаму абмяркоўваюць і асобныя спектаклі, і пэўныя тэндэнцыі ў дзейнасці таго або іншага тэатра. Падтрымліваюцца кантакты з тэатральнымі аб'яднаннямі Расіі, Украіны, прыбалтыйскіх рэспублік, Закаўказзя.**

**БТА мае абласныя аддзяленні, якія садзейнічаюць ідэйна-творчаму выхаванню артыстычных труп, дапамагаюць кіраўніцтву тэатраў фарміраваць рэпертуар і выпрацоўваць перспектыву творчага росту кожнага таленавітага чалавека. Вядзецца збор матэрыялаў па гісторыі беларускага тэатра. Распрацоўку надзённых яе пытанняў засяродзіў метадычны кабінет БТА. Выдаецца бюлетэнь «Тэатральны Мінск», выйшлі з друку зборнікі літаратурных партрэтаў майстроў беларускай сцэны і фотаальбом «Беларускі тэатр». Разам з падрабязнымі стэнаграмамі творчых абмеркаванняў і багатай фотатэкай усё гэта з'яўляецца каштоўным скарбам для гісторыкаў, даследчыкаў і практыкаў нашай сцэны.**

**Каля 1 500 членаў БТА, у лік якіх уваходзяць таксама дзеячы народных тэатраў, радыё, тэлебачання і філарманічных калектываў, удзельнічаюць у рабоце розных секцый і падтрымліваюць сталы кантакт з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з творчымі саюзамі пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў і кінематаграфістаў.**

**Беларускае тэатральнае аб'яднанне мае добра абсталяваны Дом мастацтваў з бібліятэкай і кіназалай, майстэрні, якія абслугоўваюць творчыя калектывы. Неўзабаве аб'яднанне атрымае новы чатырохпавярховы будынак на Старавіленскім тракце для свайго вытворчага камбіната.**

**Узначальвае шматгранную дзейнасць БТА нязменны старшыня прэзідыума гэтай арганізацыі народная артыстка СССР Л. Александроўская.**

**Пяты з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання абмяркуе надзённыя праблемы развіцця беларускага сцэнічнага мастацтва ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Назапашаны вялікі вопыт, поле дзейнасці неабдымнае, і ў калектыўным роздуме пра дасягненні і задачы будзе выпрацавана праграма далейшага ўздыму дзейнасці БТА.**

**Ніжэй друкуюцца выступленні членаў БТА.**

●

**Таццяна АЛЯКСЕЕВА,**
**заслужаная артыстка БССР**

ПА-ПЕРШАЕ, я віншую тэатральнае аб'яднанне з 25-годдзем і жадаю, каб і ў маладосці, і потым, калі прыйдзе сталасць, члены яго высока неслі сцяг прынцыповасці, добразычлівасці і патрабавальнасці! Каб не зніжаўся крытэрый ацэнак творчасці, каб крытыкі і мастацтвазнаўцы, якія прадстаўляюць тэатральнае аб'яднанне, ніколі не забывалі, што адлік трэба весці не з нуля, а з улікам ужо заваяваных у мастацтве пазіцый. А высокае мастацтва пачынаецца з умення прынцыпова гаварыць пра мастацтва. Само сабой зразумела, што крытыка павінна быць высока прафесійнай, што ёю павінны займацца людзі адукаваныя, інтэлігентныя. І яшчэ — крытыка павінна быць своечасовай.

Іншы раз здараецца так, што мы, работнікі тэатра, месяцамі чакаем рэцэнзіі альбо нейкага водгуку ў газеце. За гэты час паспявае ўжо скласціся грамадская думка пра той ці іншы спекталь або пра выканаўцу, і рэцэнзія, якая потым з'яўляецца, ужо не можа, па-сутнасці, прынесці той карысці, якую павінна была, ужо нічога не дае ні гледачу, ні акцёрам.

Магу прывесці прыклад. Ужо два месяцы, як Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы сыграў прэм'еру па п'есе Астроўскага «Без віны вінаватыя». Але да гэтага часу ні ў адной газеце не з'явілася рэцэнзіі на спектакль. А нам, удзельнікам спектакля, вельмі хацелася б атрымаць ацэнку нашай работы, бо працавалі мы з вялікай цікавасцю і абыякавых сярод нас не было. Класіка на акадэмічнай беларускай сцэне — гэта ж з'ява!..

Пяты з'езд БТА — значная падзея ў тэатральным жыцці рэспублікі. Хочацца, каб на ім былі не толькі ўрачыстыя прамовы, але і дзелавая гаворка пра тое, чым мы жывём, што нас хвалюе. Я нездарма звярнулася да крытыкаў — яны ж выносяць прысуд, даюць ацэнкі, якія потым застаюцца ў гісторыі сцэнічнага мастацтва. Адказнасць вельмі вялікая! Невыпадкова на XXIV з'ездзе КПСС так прынцыпова была падкрэслена роля крытыкі ў творчым працэсе.

●

**Валерый ГЛУШАКОЎ,**
**народны артыст БССР**

МУЗЫЧНЫ ТЭАТР — установа своеасаблівая. Спектакль на нашай сцэне ствараюць салісты, хор, аркестр, міманс. Такі складаны творчы арганізм патрабуе асаблівай увагі. На жаль, Беларускае тэатральнае аб'яднанне мала цікавіцца нашымі патрэбамі.

Быў час, калі ў тэатры па ініцыятыве БТА наладжваліся вельмі важныя для нас заняткі па грыме, фехтаванні, танцах. Але БТА забылася на сваю карысную ініцыятыву. Безумоўна, вінаваты ў гэтым мы, бо неяк абыякава да гэтага аднесліся. Вось і атрымліваецца — уся наша прыналежнасць да тэатральнага аб'яднання заключаецца ў тым, што мы плацім членскія ўзносы і маем членскія кніжачкі.

Аб'яднанне — саюз творчых аднадумцаў. Агульныя размовы ў такой арганізацыі весці, мабыць, і не трэба. Лепш канкрэтна і практычна садзейнічаць творчаму станаўленню кожнага з акцёраў, рэжысёраў, мастакоў, выступаць калектыўным дарадчыкам і выхавацелем артыстычнай моладзі. Клопат пра змену — наш калектыўны клопат. І тут у БТА бязмежнае поле дзейнасці. Скажам, калі мы далі творчую камандзіроўку маладому акцёру ў Маскву або ў Ленінград, нам трэба потым пацікавіцца — з чым ён вярнуўся, ці ўзбагаціў ён сябе? Мабыць, варта не толькі слухаць яго, а і глядзець на сцэне, меркаваць па яго творчай аддачы.

Не сакрэт жа, што часам маладыя артысты жывуць у мастацтве першым поспехам, не ўдасканальваюць майстэрства, не бяруць прыкладу з ветэранаў беларускай сцэны, якія здабывалі славу роднаму мастацтву і пакідаюць нам багатую спадчыну.

●

**Георгій ДУБАЎ,**
**артыст Беларускага тэатра імя Я. Коласа**

У ФОРМАХ дзейнасці Беларускага тэатральнага аб'яднання ёсць нешта і даўно вядомае, і пэўная своеасаблівасць. Зразумела, калі нашы актывісты аказваюць творчую дапамогу самадзейным тэатрам — а пра такую дапамогу Ц. Сяргейчыка, М. Цішачкіна, Б. Насоўскага, Б. Левіна, Ф. Шмакава, А. Кацельнікава, Л. Кавалёва многае маглі б сказаць аматары сцэны ў Багушэўску, Талачыне і іншых гарадах і вёсках Віцебшчыны — гэта працяг таго шэфства, якое ўсталявалася яшчэ на пачатку работы БДТ-ІІ (цяпер тэатр імя Я. Коласа) сорак пяць гадоў назад. І ўсё ж у сённяшнім поспеху «Несцеркі» або «Трыбунала» на самадзейнай сцэне адчуваеш прыкметны ўплыў нашых вопытных майстроў і артыстычнай моладзі, якія перадаюць аматарам прафесійны вопыт. Па камандзіроўках Віцебскага аддзялення БТА лекцыі пра сучасную тэатральную культуру перад шырокай аўдыторыяй чытаюць, акрамя названых вышэй таварышаў, наш галоўны рэжысёр С. Казіміроўскі, адзін з вядучых акцёраў У. Куляшоў. І кожны з іх уносіць у распрацоўку тэматыкі лекцый нешта адметнае: свой творчы вопыт, роздум пра майстэрства калег-коласаўцаў.

Кантакты з гледачом наш калектыў наладжвае паслядоўна. Скажам, калі мы разам з гарачымі прыхільнікамі тэатра абмяркоўвалі вынікі мінулага сезона, нас вельмі ўзрадавала актыўнасць і зацікаўленасць у творчым росце трупы з боку тых, для каго мы штовечар іграем спектаклі. А тады сённяшні ўзровень нашай работы параўноўвалі з узроўнем лепшых работ перадваеннага БДТ-ІІ, яго першых спектакляў 20-х гадоў. У гэтым годзе аддзяленне БТА ўдзельнічае ў дзейнасці Універсітэта тэатральнага мастацтва, створанага для пашырэння і паглыблення ведаў найбольш зацікаўленай у гэтым часткі публікі (ёсць тры «патокі» ў адпаведнасці з трыма адміністрацыйнымі раёнамі горада).

Каб мы маглі працаваць больш плённа, прэзідыум БТА павінен памагчы нам. Трэба абсталяваць бібліятэку, метадычны кабінет. Чакаем і абнаўлення складу лектараў, якіх нам прысылаюць з Мінска для заняткаў па прафесійных пытаннях, для абмеркавання з намі чарговых прэм'ер. Здараецца, што ў Віцебск з году ў год накіроўваюцца адны і тыя ж спецыялісты (крытыкі, рэжысёры), і мы, бывае, загадзя здагадваемся, што яны, ў адпаведнасці з вядомым нам густам і тэарэтычным узроўнем, скажуць пра рэжысуру або пра артыстаў. Мабыць, варта прэзідыуму БТА індывідуальна падбіраць для абмеркавання сучаснага спектакля адных крытыкаў і рэжысёраў, класікі — іншых. Мы здолелі самастойна запрасіць з Масквы спецыялістаў па грыме і па асвятленні, і іх гутарка з калектывам стала для нас падзеяй — свежыя думкі, арыгінальныя меркаванні, самастойныя ацэнкі.

Творчыя камандзіроўкі артыстаў у Маскву і Ленінград маюць пакуль што выпадковы характар, прынамсі, для віцяблян: часцей за ўсё мы едзем туды летам, калі асноўныя тэатры гастралююць недзе або адпачываюць. Лепш, відаць, даваць артысту не 10 дзён, а 5, але тады, калі ён зможа пазнаёміцца з навінкамі тэатральнага жыцця на прыкладзе вядучых калектываў краіны.

Спадзяёмся, што V з'езд БТА, вывучыўшы вопыт работы абласных аддзяленняў, выпрацуе больш дзейсныя формы ўздыму творчасці ўсіх тэатраў рэспублікі і іх садружнасці з масавым гледачом.

Віцебск.

## КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ — Ю. МІХНЕВІЧ

У тэатры оперы і балета БССР адбыўся перадвыбарчы сход, прысвечаны вылучэнню кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Купалаўскай выбарчай акрузе № 16 г. Мінска.

Галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Атар Дадзішкіліяні прапанаваў вылучыць кандыдатам у дэпутаты міністра культуры БССР Юрыя Міхайлавіча Міхневіча.

— Мы добра ведаем Юрыя Міхайлавіча, — сказаў ён, — як актыўнага дзеяча, які шмат робіць для развіцця беларускай культуры. Думаю, што ён будзе дастойна прадстаўляць наша мастацтва ў вярхоўным органе ўлады.

Народная артыстка БССР С. Данілюк, артысты А. Змачынскі, А. Вішнеўская, якія выступілі на сходзе, горача падтрымалі кандыдатуру Ю. Міхневіча.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

## НАРОДНАМУ АРТЫСТУ БССР Аляксандру РЫБАЛЬЧАНКУ—60



**Свой першы танец Аляксандр Рыбальчанка паставіў трыццаць пяць гадоў таму назад. Малады, нікому не вядомы тады кіраўнік калектыву выбраў для свайго дэбюту вясёлую беларускую «Лявоніху».**

**З таго памятнага 1936 года Аляксандр Аляксеевіч Рыбальчанка назаўсёды звязаў сваё жыццё з мастацкай самадзейнасцю, з танцавальным калектывам Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.**

**Ішлі гады. Ставіліся ўсё новыя і новыя танцы, расло прафесійнае майстэрства самадзейных артыстаў. Расло і майстэрства харэографа.**

**У калектыў прыходзілі ўлюбёныя ў танцавальнае мастацтва юнакі і дзяўчаты, якія рабілі свае першыя крокі на сцэне. Пакідалі сцэну больш сталыя танцоры, што прайшлі «рыбальчанкаўскую» школу. І даводзілася зноў пачынаць з нуля. Павольна, але настойліва пераадольваць усе цяжкасці, уводзіць маладых артыстаў у чароўны свет танца.**

**Гэта былі цяжкія, напоўненыя штодзённай нялёгкай працай, хваляваннямі і клопатамі гады. Але гэта былі і шчаслівыя гады, азораныя радасцю творчасці. Гады росквіту таленту харэографа. У 1949 годзе Аляксандру Рыбальчанку прысвойваецца ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, а ў 1959 — народнага артыста БССР. У гэты ж час самадзейны танцавальны калектыў атрымлівае права называцца народным ансамблем песні і танца.**

**Ганаровае званне патрабавала новай сур'ёзнай работы, новых пошукаў. Прайшлі адказныя канцэрты на ВДНГ у Маскве, на VI Сусветным фестывалі моладзі. Артысты ансамбля выступалі перад масквічамі і ленінградцамі, рыжанамі і мінчанамі, пабывалі ў многіх гарадах Украіны, Беларусі, РСФСР. Тройчы выступаў самадзейны калектыў на сцэне Крамлёўскага Палаца з'ездаў. Пабываў ён і за межамі нашай Радзімы.**

**Народнаму артысту БССР Аляксандру Рыбальчанку споўнілася 60 гадоў. Ён поўны энергіі, новых творчых задум.**

Тэкст і фота Ч. МЕЗІНА. (БЕЛТА).

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Валкадаева Пятра Іванавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

# НАРАДА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У апошнія гады інтэлігенцыя вобласці не часта збіралася разам. І таму нарада, якая адбылася днямі ў Гродна, сабрала асабліва многа мастакоў і артыстаў, паэтаў і кампазітараў, членаў творчых саюзаў і тых, хто яшчэ спрабуе свае сілы ў мастацтве.

З дакладам «Задачы творчай інтэлігенцыі па камуністычным выхаванні працоўных у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» выступіў сакратар абласнога камітэта партыі А. Ульяновіч. Востра і прынцыпова гаварылася ў дакладзе пра поспехі і недахопы ў рабоце абласных аддзяленняў творчых саюзаў. Мала ініцыятывы праяўляюць у Саюзе журналістаў, адстае ад жыцця літаратурнае аб'яднанне.

— Сёння ў кожнай вёсцы, у кожным пасёлку ёсць свая інтэлігенцыя. Яна павінна стварыць тую атмасферу духоўнага жыцця, якім сёння хоча жыць сельскі працаўнік. Праводзячы свае мерапрыемствы, мы яшчэ рэдка задумваемся: а ці ўсе слухалі тую лекцыю і даклад, што прапанавалі работнікі культуры? Ці даходзім мы да кожнага? — гэтая думка была галоўнай у выступленні начальніка абласнога аддзела культуры А. Лыскова.

— Прыгажосць нашага горада ў многім залежыць ад нас, мастакоў — сказаў старшыня Гродзенскай секцыі Саюза мастакоў БССР І. Пушкоў. — Але трэба адзначыць, што наша творчая моладзь яшчэ не ў поўны голас заявіла аб сабе.

Дырэктар абласной студыі тэлебачання Я. Карабок расказаў аб творчых сувязях студыі з драматычным тэатрам, аб сумеснай рабоце над спектаклямі.

Над чым працуюць цяпер творчыя работнікі? Аб гэтым гаварылі сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР В. Быкаў, кампазітар А. Шыдлоўскі, рэжысёр Слонімскага народнага тэатра М. Варвашэвіч.

Варлен БЕЧЫК

# ТЭМПЕРАТУРЫ І ХАЛОДНАЕ КІПЕННЕ



З ФІЗІКІ вядома: калі змяншаецца атмасферны ціск — зніжаецца і тэмпература кіпення. Згадалася гэта, і сталі напрошвацца літаратурныя аналогіі. Але пра такое, у літаратуры, «гарачае» і «халоднае» кіпенне — пасля.

Спачатку пра дыскусію аб крытыцы, што вядзецца зараз на старонках «Літаратуры і мастацтва».

Столькі зараз паўсюдна адбываецца размоў пра літаратурную крытыку, столькі выказваецца думак і меркаванняў, што неўзабаве, здаецца, спатрэбіцца перадышка, каб асэнсаваць сказанае, разабрацца ва ўсім...

Крытыка, нарэшце, дачакалася ўвагі да сябе. Але што такое сапраўдная ўвага? Мабыць, гэта азначае і разуменне спецыфікі, унутранай сутнасці крытыкі, і спасціжэнне яе шляхоў і кірункаў развіцця, выразнае бачанне яе клопатаў і праблем. А яшчэ — забеспячэнне крытыцы магчымасцей для найбольш плённых кантактаў з літаратурай, жыццём, з чытачамі.

Мне здаецца, дыскусія аб крытыцы на старонках «ЛІМа» ўдала пачалася і паспяхова разгортваецца. Удзельнікі размовы не разбрыліся ў розных кірунках, а адразу сканцэнтравалі думкі на вузлавых пытаннях. Гаворка пайшла аб прынцыповасці крытыкі, аб яе прафесійным узроўні і арыентаванасці ў з'явах грамадскага і літаратурнага жыцця, аб яе патрабавальнасці, аб творчай і грамадзянскай актыўнасці.

Прыемна, што ўдзельнікі дыскусіі выказваюцца прама і адкрыта. Пануе тон шчырай зацікаўленасці, закранаюцца набалелыя пытанні літаратурнага жыцця. Не з усімі выступленнямі я згодзен, з некаторымі хочацца спрачацца, але ўсе яны, думаецца, будуць на карысць справе.

І ўсё ж... Нават у рамках самой дыскусіі выразна бачыцца, што плённую творчую атмасферу для крытыкі стварыць цяжка, што патрэбна яшчэ шмат намаганняў. Самі аўтары дыскусійных артыкулаў (а ўсе ж яны — за сапраўдную крытыку), даводзячы свае высновы, пэўна хацелі б, каб іх артыкулы як мага лепш адпавядалі іхнім уяўленням пра сапраўдную крытыку. І што ж? І тут не абышлося без катэгарычнасці, прыдзірак, недагаворанасці. Рашуча абвешчаныя прынцыпы доказнасці, аб'ектыўнасці, прынцыповасці часам аказваліся свядома ці несвядома занядбанымі.

Я ахвотна пагаджуся, напрыклад, з многімі мясцінамі ў артыкуле Я. Герцовіча «Салаўя байкамі не кормяць» («ЛІМ», 17 верасня). І з яго арганізацыйна-творчымі прапановамі. і з тым, што трэба «зрабіць так, каб не заміналі фактары суб'ектыўнага плана», і з тым, што «не павінна страчвацца мера аб'ектыўнасці». Але, згадваючы выступленні Я. Герцовіча супраць твораў Ул. Караткевіча, гэтыя разважанні пра «меру аб'ектыўнасці» хочаш адрасаваць і яму самому.

Або вось артыкул В. Мысліўца «Найпершы запавет» (29 кастрычніка). Чытаецца ён з дваістым пачуццём. Ёсць, як быццам, добры, «станоўчы» запал, заяўлена жаданне наблізіць крытыку да «навукова-аб'ектыўнага аналізу мастацкіх твораў», абазначаны і каардынаты для прынцыповай размовы: час — жыццё — крытыка — літаратура. Праўда, разважанням В. Мысліўца там-сям бракуе гнуткасці, і часам ён недаравальна спрошчана тлумачыць і творчы працэс, і абавязкі крытыкі. В. Мыслівец не выдае сябе за крытыка, за вялікага знаўцу таямніц творчасці. Аднак у яго артыкуле прысутнічае нешта такое, што насцярожвае. «Не бярэ бога за бараду С. Андраюк», «усялякаму відушчаму ясна», «замуляныя крытыкі»... Гэта, мабыць, адзнакі не проста «жывасці» фразеалогіі. Становіцца дзіўна. Безумоўна, сам В. Мыслівец чакае ад крытыкі ўважнага і зычлівага слова. Таму нізавошта і ніколі ён не даруе ёй ні лёгкадумных разважанняў, ні павярхоўных ацэнак, ні скараспелых вывадаў. А ў сваёй гаворцы аб крытыцы ён чамусьці не засцярогся ад гэтага.

З РЭШТЫ, дыскусійныя артыкулы ў «ЛІМе» як быццам сведчаць, што ўсе аўтары разумеюць яе значэнне для літаратуры і ўсе хочуць паляпшэння спраў, а некаторыя артыкулы — і канструктыўна, як кажуць, плённыя. (Хіба гэта не так у дачыненні, напрыклад, да развакліва-ўдумнага маналогу М. Лобана і аргументаванага, змястоўнага выступлення Ул. Юрэвіча, да шмат у чым слушных меркаванняў А. Лойкі пра крытыку паэзіі).

Толькі асабліва цешыцца гэтым пакуль што, мабыць, не вельмі выпадае. Па-першае, заўважаецца тэндэнцыя гаварыць пра крытыку агулам. Чамусьці мала хто ўзіраецца ў твары асобных крытыкаў, нават прозвішчы называюцца рэдка і звычайна гуртам, у пераліку, а асобных прац крытыкаў нібы зусім не існуе. Па-другое, сапраўднай размовы пра крытыку не можа быць да той пары, пакуль будуць абмяркоўвацца толькі правы і абавязкі крытыкі ў літаратуры.

Чым жыве і чым дыхае крытыка, якія кірункі яе развіцця, што бачыць і чаго не заўважае яна ў літаратурным працэсе, як арыентуе яна і літаратуру і грамадскасць, якое яе сапраўднае, у сувязі з гэтым, месца ў літаратуры?.. Пра гэта сказана пакуль што мала, як і пра тое, **што** прыдбана нашай літаратурай дзякуючы крытыцы, **якія, чые** кнігі і артыкулы былі дабратворнымі для чалавеказнаўчага і эстэтычнага ўзроўню нашай літаратуры.

Я не ўяўляю сабе артыкулаў, напрыклад, пра сучасную паэзію, дзе не разглядалася б канкрэтна і дыферэнцыравана праца асобных творцаў. І чаму ж самі паэты, празаікі, якія заўсёды чакаюць добрага слова пра сябе і чуйна рэагуюць на адзнакі няўвагі, у дыскусіі пра крытыку не называюць тых, хто заслужыў удзячнасці і ўвагі.

А ў нас ёсць крытыкі, чыя прысутнасць у літаратуры адчувальная, чыё разуменне жыцця і з'яў літаратуры, пранікненне ў свет творчасці ўзбагачаюць нас. Слова такіх крытыкаў, як А. Адамовіч, Р. Бярозкін, В. Каваленка, Р. Шкраба, амаль заўсёды прыцягвае ўвагу літаратурнай грамадскасці. А хіба не цікавымі для нас былі многія артыкулы А. Клышкі, М. Стральцова, А. Яскевіча?

І зроблена нашай крытыкай шмат, хоць часам мы быццам і не заўважаем гэтага. Пры самым актыўным удзеле крытыкі адбываліся ўсе найбольш істотныя зрухі ў літаратуры, усталёўваліся і развіваліся крытэрыі праўды і мастацкасці.

М. Арочка, двойчы ўзяўшы слова ў дыскусіі, закрануў важнае пытанне аб грамадзянскасці паэзіі. Думаецца, ён змог бы больш паспяхова і паслядоўна развіць свае палажэнні, а сама размова пра гэта атрымалася б больш змястоўнай, калі б у ёй паўней улічвалася тое, што ўжо зроблена нашай крытыкай і літаратуразнаўствам менавіта «на магістральных шляхах сацыяльнасці, грамадзянскасці».

У нас ужо ёсць даследаванні і артыкулы, дзе акцэнтуюцца пытанні грамадзянскасці ў паэзіі, дзе па рахунку грамадзянскасці ацэньваюцца творчыя набыткі асобных паэтаў. (Тут, дарэчы, можна згадаць, побач з артыкуламі Р. Бярозкіна, У. Гніламёдава, А. Лойкі, Н. Гілевіча, і некаторыя працы самога М. Арочкі, асабліва яго артыкул «Маналогі паэтычных пакаленняў», надрукаваны ў «Полымі»).

Літаратуразнаўства і крытыка ў апошні час звяртаюць усё больш увагі на праблемы грамадзянскасці ў плане канкрэтна-гістарычным, спрабуюць, зыходзячы з гэтага, дыферэнцыраваць месца і ролю асобных паэтаў у гісторыі беларускай літаратуры, улічваць нацыянальныя грамадска-гістарычныя і гісторыка-літаратурныя асаблівасці. І гэта — перспектыўны і плённы напрамак, які дазваляе выразней і канкрэтней бачыць шляхі літаратурнага развіцця.

Яскравым прыкладам здаюцца мне апошнія працы Р. Бярозкіна. У кнізе «Чалавек на світанку» і артыкуле пра творчасць Цёткі, надрукаваным у «Полымі» (1969, № 11), крытык спрабуе ўстанавіць у кантэксце часу і літаратурнага працэсу грамадзянскую і эстэтычную змястоўнасць паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі. Пры гэтым улічваюцца і запатрабаванні эпохі, і асаблівасці таленту, і нацыянальная гістарычная і літаратурна-мастацкая перспектыва. Даследчык устанаўлівае і абгрунтавана паказвае неаднолькавую адлегласць, «што прасціралася паміж першым рэвалюцыйным імпульсам ці штуршком і яго эмацыянальным, вобразным водгукам ці адбіткам» у творчасці Купалы, Коласа, Цёткі. Ён прасочвае, як па-рознаму адбіваліся ў творчасці кожнага з іх ідэі, дух жыццядзейны пафас рэвалюцыі.

Для нас надзвычай павучальныя творчыя ўрокі кожнага з гэтых выдатных паэтаў. І такая «стэрэаскапічнасць» крытычнага бачання іх творчасці дапамагае асабліва выразна гэта раскрыць і паказаць.

Дзякуючы працам Ул. Калесніка мы глыбей зразумелі грамадзянскую накіраванасць і палітычную завостранасць паэзіі былой Заходняй Беларусі. У іх плённа рэалізуецца гнуткі і differentiated разнабаковы падыход да сацыяльных і эстэтычных вартасцей твораў заходнебеларускіх паэтаў. У артыкуле «Старонкі беларускага рамантызму («Полымя», 1969, № 11), аналізуючы магчымасці розных паэтычных напрамкаў заходнебеларускай паэзіі з пункту гледжання іх уплыву на чытача, скіраванасці ў будучыню, форм выяўлення грамадскіх і эстэтычных ідэалаў, Ул. Калеснік пераканаўча акрэслівае месца і значэнне як масавай палітычнай лірыкі, так і пазначаных «самастойным «даследчым» элементам» твораў Л. Родзевіча, Ул. Жылкі, А. Салагуба, П. Пестрака — твораў, больш значных па змястоўнасці эстэтычных сувязей з грамадскай свядомасцю, з думкамі, пачуццямі і настроямі народных мас Заходняй Беларусі.

Вось такога паглыбленага прачытання чакаюць яшчэ, мне здаецца, «прамежкавыя», пераходныя перыяды ў беларускай паэзіі—тыя моманты, калі ў выніку грамадскіх змен і ўнутраных зрухаў у самой паэзіі ад яе патрабаваліся змены і ў эстэтычнай сістэме, калі пераадоленне творчай інерцыі можа набываць нават грамадзянскае гучанне (як гэта было ў нашай паэзіі на парозе 30-х гадоў, калі імклівыя змены ў рэчаіснасці запатрабавалі ад паэтаў умення пераадолець псіхалагічны і мастацкі адрыў «хады падзей» ад унутранага свету асобных людзей, або — у сярэдзіне 50-х, калі грамадзянская і эстэтычная спрэчка вялася ў паэзіі не толькі па сутнасці грамадскіх праблем, але і ў саміх формах выказвання — аж да паэтычнай стылістыкі, што падкрэслена адштурхоўвалася ад «агульных мясцін».

С ЁННЯ, вядома, ужо не так часта нехта ўлегцы і агулам можа ахайваць нашу крытыку, але нам яшчэ прыкметна нестае той культуры літаратурнага жыцця і творчых узаемаадносін, калі гэта стане амаль немагчымым, калі літаратары навучацца ўменню з годнасцю выслухоўваць крытыку ў свой адрас.

Праблема ўзаемаадносін крытыкі з аўтарамі твораў з'яўляецца усё яшчэ занадта складанай. З ёю ў значнай ступені звязаны і такія хваробы крытыкі, як паблажлівасць, факты замоўчвання твораў і імёнаў, разбежкі і непаслядоўнасці ў ацэнках. Колькі вядома нам выпадкаў, калі некаторыя распешчаныя аўтары з гіпертрафіраваным самалюбствам, рэагуючы на крытыку, выходзяць за межы элементарнай прыстойнасці. Але гэта, як гаворыцца, толькі бытавы план.

Возьмем план творчы. І сёння яшчэ, на жаль, шырока, распаўсюджаны адносіны да крытыкі як да другараднага, падсобнага жанру ў літаратуры. Гэта відаць нават па тым, як і якія прэтэнзіі прад'яўляюць крытыкам. Ад крытыка часам патрабуюць неразборлівага універсалізму, каб ён на ўсё адгукаўся і пра ўсіх пісаў. Яго дакараюць за «любімчыкаў», якім ён аддае перавагу (як быццам, па прыкладзе самай старажытнай прафесіі, ён павінен любіць усіх адразу). А часам — ледзь не абавязваюць да пэўных ацэнак...

Але ж крытыка — гэта і мастацкая творчасць. Яна, вядома, і навука, бо шырока карыстаецца навуковымі прынцыпамі і метадамі, цесна кантактуе з сацыялогіяй, філасофіяй, эстэтыкай і г. д. Але ж і прадмет, і матэрыял крытыкі, і яе ідэалы знаходзяцца ў сферы мастацтва, яна і сама — творчасць не толькі навуковая, але і мастацкая. Згадваецца выказванне Апалона Грыгор'ева: «Пытанні жыцця, яго тайныя памкненні, яго адкрытыя хваробы — блізкія ўражлівай арганізацыі крытыка, таксама як і творчай арганізацыі мастака. Выявіць сваё сузіранне ў поўным і цэльным мастацкім тварэнні яму не па сілах: аднак, валодаючы ў вышэйшай ступені адмоўным усведамленнем ідэалу, ён адчувае (не толькі ведае, але і адчувае, што нашмат важней), дзе што не так...»

Натхненне, эмацыянальнасць, вобразнасць мыслення — неад'емныя якасці сапраўднай крытыкі. Крытык — творца са сваімі поглядамі на жыццё і літаратуру, са сваімі схільнасцямі і інтарэсамі. Ён таксама выношвае свае задумы, ён таксама жыве ў мастацкай сферы, як і мастак, які пакутуе, шукае, сцвярджае і адстайвае пэўныя грамадскія і эстэтычныя ідэалы. І трэба шанаваць у ім творцу! Ён не можа аўтаматычна выконваць усе заяўкі. Ёсць шчаслівыя часіны, калі душа і думка вольна лучацца з творчасцю Танка, Панчанкі, Куляшова, Пысіна, Вярцінскага, Барадуліна, Гілевіча ці каго іншага, але бывае так, што пры ўсім жаданні менавіта ў пэўны момант пісаць пра іх крытык не можа. У сапраўдных крытыкаў за тэтым «не можа» хавацца не літаратурная інертнасць і лянота. І хай пішуць яны тады, калі не могуць не пісаць.

Пісьменнікі чамусьці маюць звычку ў сваіх творах выводзіць крытыкаў у адмоўнай ролі. Крытыкі — вульгарызатары, зламыснікі, незычліўцы, апалагеты, аматары доўбні ці ялею, групаўшчыкі, прыстасаванцы і да т. п. Крытык у літаратуры ледзь не заўсёды — мішэнь, усталяваны адмоўны вобраз, аб'ект кепікаў і сатыры. Што ж, няхай сабе яго выкрываюць і б'юць, ён, такі, і заслугоўвае гэтага.

Але нельга забывацца, як у жыцці нараджаюцца такія крытыкі. Мабыць, на іх быў попыт. Мабыць, не адны яны стваралі кан'юнктуру...

Свежы факт — толькі што надрукаваны новы верш Н. Гілевіча «Занадта сярдзітаму крытыку», дзе ёсць, у прыватнасці, такія радкі:

**Не хавай мяне, браток, жывога,**  
**Пачакай, паспееш пахаваць.**  
**Мне зрабіць яшчэ патрэбна многа,**  
**Шмат яшчэ дзе трэба пабываць.**

Далей, развіваючы гэты матыў, паэт працягвае: «Я не ўсё яшчэ раздаў, што маю: я збіраў свой скарб дзесяткі год, і ў труну з ім легчы не жадаю — марнатраўцам назаве народ».

Верш уяўляецца мне няўдалым. Ён выглядае схематычным, яго эмацыянальная стыхія здаецца несапраўднай, штучна падагрэтай. Верш задуманы як кантраст душэўна-ідэальнага (яно ажыццяўляецца ў інтанацыях узнёслай лірычнасці «Я не ўсіх яшчэ са шчырай песняй абышоў і павітаў сяброў і не ўсім яшчэ паклон адвесіў...») і той абмежаванасці, якая валодае адно толькі забойнай сілай (ёй спадарожнічаюць іранічна-сатырычныя сродкі). «Сярдзіты крытык» узяты як фон, які здаецца аўтару зручным і выгадным для супастаўленняў з лірычным героем. Але ці ёсць асаблівая змястоўнасць у тым лірычным стэрэатыпе паэта, які прадстае перад намі з верша («шмат яшчэ дзе трэба пабываць», «не ўсім яшчэ паклон адвесіў», «не ўсё яшчэ раздаў, што маю»...)? І яшчэ — дзіўна, што Н. Гілевічу, творы якога крытыка заўсёды прымала вельмі прыхільна, мроіцца страшэнны прывід такога «занадта сярдзітага крытыка».

Зрэшты, можна было б не спыняцца на гэтым вершы, не засяроджваць увагу на прыватнай няўдачы. Але згадваецца, што і ў іншым выпадку, ужо ў неардынарным вершы «Вось і прыйшла пара для справаздач...», паэт таксама, перш чым пачаць свае строгія падрахункі, гаворыць: «Бухгалтар-крытык дзівіцца з балансу: на кожную ўдачу — сем няўдач». Навошта садзіць крытыка за бухгалтарскія лічыльнікі, калі ёсць свой, «вышэйшы суд»: «Ды бачу й сам, перагартаўшы дні, як слепа, вобмацкам прайшлі...»

(Заканчэнне на стар. 6—7).

# ...І АРТЭРЫЯ ДУХОЎНАГА ЎЗБАГАЧЭННЯ

М. ЕРМАЛОВІЧ

КАМУ з нас яшчэ са школьнага часу не запомніліся словы Якуба Коласа, у якіх выказана захапленне чыгункай:

**Эх, і быстры ж той гон!**
**Толькі пыхкае дым.**
**За вагонам вагон**
**Мчыцца змеем ліхім.**

**Мчыцца ўночку і ўдзень,**
**Толькі поле дрыжыць.**
**Так ні конь, ні алень,**
**Ні арол не ляціць.**

Вось ужо роўна стагоддзе, як чыгунка ўвайшла ў жыццё Беларусі. Праўда, яшчэ да таго яна была не ў навіну многім беларусам. Дзесяткі тысяч нашых сялян, здадзеных памешчыкамі-прыгоннікамі ў наймы да падрадчыкаў як танная рабочая сіла, выконвалі самую цяжкую працу на пракладцы чыгунак у Расіі. Нездарма ж М. Някрасаў паказаў будаўніка чыгункі ў вобразе беларуса, даведзенага катаржнай працай да крайняга фізічнага і духоўнага знясілення:

**Видишь, стоит изможден лихорадкою,**
**Высокорослый, больной белорус:**
**Губы бескровные, веки упавшие,**
**Язвы на тощих руках,**
**Вечно в воде по колено стоявшие**
**Ноги опухли; колтун в волосах.**
**Ямою грудь, что на заступ старательно**
**Изо дня в день налегали весь век...**
**...Не разогнул свою спину горбатую**
**Он и теперь еще: тупо молчит**
**И механически ржавой лопатою**
**Мерзлую землю долбит!**

Пра цяжкую невыносную працу на будаўніцтве чыгункі сведчыць і беларуская народная песня:

**А хто не быў на чыгунцы,**
**Той гора не знаець.**
**А мы былі, прабавалі,**
**Пра ўсё гора зналі:**
**І холаду, і голаду**
**Усяго напрымаліcь...**

Чыгунка адразу трапляе ў поле зроку і маладой беларускай літаратуры, прыцягнуўшы да сябе ўвагу перш за ўсё тым, што са з'яўленнем яе яшчэ больш агаліліся асноўныя канфлікты самадзяржаўна-буржуазнага ладу. Так, Францішак Багушэвіч у вершах «Дурны мужык, як варона» і «Бог не роўна дзеле» паказаў, як чыгунка, што ўзнікла «з мужыцкай цяжкай працы», прынесла выгоды не яе будаўніку, а пануючым паразітычным класам і гэтым самым больш выразна падкрэсліла сацыяльную няроўнасць у тагачасным грамадстве:

**Гэты едзе у вагоне, —**
**Цёпла, мякка, толькі жыць!**
**А ляціць, як віхар гоне,**
**А ён сабе толькі спіць.**

**Той ў мяцеліцу, ў марозе,**
**Што аж вон яму прэ дух,**
**Паўзе з клункам па дарозе**
**У снягу увесь па брух!**

Чыгунка, якая паскарала развіццё капіталістычнай эканомікі і асабліва гандлю, у той жа час бязлітасна біла па ўсім тым, што ўжо не магло задаволіць патрэб буржуазіі. Гэта добра бачыў Янка Лучына. У нарысе «Са святочнай паездкі» (1893) ён паказаў, як чыгунка прынесла збядненне гандлёвым мястэчкам беларускага Панямоння, бо яна прывяла ў заняпад нёманскі рачны транспарт, які аказаўся вельмі ціхаходным для новага часу: «Сёння няма патрэбы чакаць цэлы год транспартнага выпадку — па рэйках, у дзесяць, дваццаць разоў хутчэй паспяваем звезці немцам нашы лішкі, няма патрэбы вадой цягнуць да нас еўрапейскі тавар, сам ён няпрошаны лезе і наплывае. Хуткасць — вось дэвіз навейшага гандлю».

І хоць чыгунка, як і кожная заваёва тэхнічнага прагрэсу ва ўмовах буржуазнага ладу, мела ценявыя бакі, аднак у цэлым яна, бясспрэчна, стала адыгрываць станоўчую ролю ў далейшым лёсе беларускага народа.

Беларусь, будучы з самых старажытных часоў месцам скрыжавання гандлёвых шляхоў, натуральна стала і месцам перасячэння важнейшых чыгунак. Гэта садзейнічала ўмацаванню сувязі Беларусі з другімі, больш развітымі раёнамі Расіі, што спрыяла больш хуткаму эканамічнаму развіццю нашага краю.

Праўда, у гэты час сталі з'яўляцца тэарэтыкі (яны нават называлі сябе марксістамі), якія сцвярджалі, што эканамічнае зближэнне паасобных абласцей і краін ў эпоху імперыялізму робіць немагчымым і таму непатрэбным нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных народаў і іх самавызначэнне. У. І. Ленін ахарактарызаваў такія разважанні як карыкатуру на марксізм і назваў іх імперыялістычным эканамізмам. На прыкладзе Украіны і Беларусі ён паказаў заканамернасць і прагрэсіўнасць нацыянальных рухаў і лозунга самавызначэння нацый у эпоху імперыялізму. І сапраўды, на канец XIX — пачатак XX стагоддзяў прыпадае бурны ўздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі, што было вынікам фарміравання ў гэты час беларускай нацыі. Усё гэта ішло насуперак жаданню царскага самадзяржаўя, якое ўсяляк глушыла праявы беларускага нацыянальнага развіцця. Але калі адміністрацыйнымі распараджэннямі можна было запаволіць развіццё беларускай культуры, то, як адзначаў У. І. Ленін, «ніякай палітычнай мерай нельга забараніць эканомікі». А менавіта няўхільнае развіццё яе, чаму ў першую чаргу садзейнічаў чыгуначны транспарт, прывяло да ўтварэння мясцовага нацыянальнага рынку ў Беларусі, які стаў груытам супольнасці эканамічнага жыцця беларусаў, што з'явілася галоўнай умовай ператварэння іх у нацыю.

Чыгунка, стаўшы прывычнай з'явай для беларуса, уносіла істотныя змены і ў яго свядомасць. Дзядзька Антон, галоўны герой аднайменнай беларускай гутаркі (1892), сваім глыбокім веданнем жыцця быў абавязаны і чыгунцы, на якой яму прыйшлося працаваць. Дарэчы, повадам для яго гутаркі пра хітрую механіку абрабавання працоўнага чалавека ва ўмовах буржуазнага ладу з'явіўся прыезд у карчму сялян, якія вазілі дровы на чыгунку. Цікава адзначыць і тое, што дзядзька Антон, ведаючы пра добрае знаёмства сваіх слухачоў з чыгункай, каб больш наглядна паказаць ім суму царскага доўгу, называе вялізную колькасць вагонаў, у якія можна змясціць гэты доўг, калі яго перавесці на серабро.

Якуб Колас у паэме «Новая зямля» даў вельмі яркую мастацкую замалёўку таго, як паездка па чыгунцы прынесла селяніну разам з новымі ўражаннямі і новыя думкі. Нельга забыць, як дзядзька Антось, едучы «зайцам» у Вільню, з акна вагона змог і лепш убачыць веліч, прыгажосць і багацце роднай зямлі, і глыбей усвядоміць сацыяльную несправядлівасць самадзяржаўнага ладу:

**— Ото разгон і шыр якая! —**
**З сабою дзядзька разважае: —**
**Зірнеш — не згледзеш канца-краю,**
**І гэта ўся зямлі армада**
**Гаспадара-цара аблада!**
**Вялікі ён багач на свеце,**
**Ды толькі бедны яго дзеці!**
**Ядуць хлябок яны з мякінай,**
**Зайцамі ездзяць на машыне.**
**Якія дворы, божа мілы!**
**А ўсюды бедны люд пахілы,**
**Кішыць гаротны, як мурашкі...**

Максім Багдановіч з уласцівым яму глыбокім эстэтычным чуццём убачыў, як хораша ўпісалася чыгунка ў беларускі пейзаж. Унёсшы ў яго новыя фарбы і гукі, яна прыдала яму яшчэ большую прывабнасць:

**Праз радасны заліты светам бор**
**Праходзіць насып жоўтая чыгункі.**
**Як роўна рэйкі, быццам на малюнкі,**
**Ляглі уздоўж! Як ярка семафор**
**Удалі зялёным шклом гарыць ад сонца!**
**Як тэлеграфныя слупы гудзяць!**
**Пабач — дразды на дроце іх сядзяць,**
**А дрот зіяе лепей ад чырвонца...**
**...Ледзь чутна рэйкі тонкія дрыжаць.**
**З вясёлым шумам у бары зялёным**
**Нясуцца за вагонамі вагоны;**
**Шыпіць машына, іскры зіхацяць,**
**Дым белы цягнецца ўгары струёю;**
**Ад светла сонца ззяе сталь і медзь!..**

Са з'яўленнем чыгунак пачынае фарміравацца беларуская тэхнічная інтэлігенцыя. Інжынеры і іншыя служачыя-чыгуначнікі былі адной з груп інтэлігенцыі, якая ў большай ступені, чым іншыя, адчувала сваю духоўную сувязь з беларускім народам. Нездарма ж з яе выйшаў шэраг выдатных дзеячоў Беларусі. Адзін з першых (а, магчыма, і першы) з беларускіх інжынераў-чыгуначнікаў Уладзіслаў Малахоўскі быў паслядоўным рэвалюцыйным дэмакратам, бліжэйшым паплечнікам Кастуся Каліноўскага ў кіраўніцтве паўстаннем 1863 г.

Пад псеўданімам Янкі Лучыны ў беларускай літаратуры выступаў Іван Неслухоўскі (1851—1897 гг.), таксама інжынер-чыгуначнік. З'яўляючыся прыхільнікам тэхнічнага прагрэсу, Я. Лучына ў той жа час не мог падзяляць погляды тых вульгарызатараў, якія лічылі, што машынная цывілізацыя і навука абавязкова павінны знівеліраваць самабытнасць народаў і іх культур. Наадварот, ён быў цвёрда ўпэўнены, што «сонца навукі» прынясе ўзраджэнне яго роднай старонцы — Беларусі.

Янку Лучыну ў многім паўтарыў Адам Гурыновіч (1869—1894 гг.). Ён гэтак жа цікавіўся беларускім фальклорам, а пасля заканчэння гімназіі таксама паступіў у той жа Тэхналагічны інстытут, дзе вызначыўся як выключна здольны студэнт і быў на шляху да важнага адкрыцця ў паравознай справе. А. Гурыновіч быў таксама беларускім паэтам.

25 гадоў праслужыў у галоўным упраўленні чыгункі ў Мінску Альберт Паўловіч і ўвесь гэты час ён вёў плённую літаратурную дзейнасць, якую распачаў яшчэ ў 90-х гадах XIX ст. Калі пачала выходзіць «Наша ніва», ён стаў у ёй друкавацца, а пазней і ў іншых беларускіх выданнях. Творчасць А. Паўловіча ўвабрала ў сябе дасціпнае народнае слова і жарт, і таму яна адыграла важную ролю ў развіцці беларускага гумару. Яго зборнік «Снапок» (1910), у якім былі змешчаны гумарыстычныя вершаваныя апавяданні, меў вялікі поспех у чытачоў.

Чыгуначным служачым быў і Антон Васілеўскі (нарадзіўся ў 1891 г.), які ў 20-я гг. пад псеўданімам Антося з Лепля выступаў у заходнебеларускім друку з гумарыстычнымі апавяданнямі і выдаваў сатырычны часопіс «Авадзень».

Галоўную ролю адыграла чыгунка ў станаўленні беларускага рабочага класа. Пачатак гэтага гістарычнага працэсу вельмі выразна зафіксаваў Янка Лучына ў вышэй успомненым нарысе. З яго мы даведваемся пра старога віціпніка, які, страціўшы працу на Нёмане, вымушаны быў шукаць яе на чыгунцы: «Ці не можна мне, паночку, каб як на гэту чыгунку ў стрэлачнікі ці старажы, ці якое другое запісацца?». Менавіта чыгуначнікі былі галоўным касцяком беларускага пралетарыяту. Калі ў асяроддзі гарадскіх прамысловых рабочых беларусы складалі невялікі працэнт, то сярод чыгуначнікаў Беларусі яны былі ў пераважнай большасці.

Чыгуначнікі ішлі ў авангардзе рэвалюцыйнай барацьбы беларускага народа супраць самадзяржаўя, буржуазіі і памешчыкаў. Забастоўка рабочых чыгуначных майстэрняў у 1886 г. у Гомелі была першай масавай забастоўкай у Беларусі. Цікава адзначыць, што I з'езд РСДРП адбыўся ў 1898 г. у Мінску на кватэры чыгуначнага служачага П. Румянцава, якому належаць прарочыя словы, сказаныя пасля заканчэння з'езда: «Няхай дзіця, народжанае ў гэтым доме, будзе моцным і дужым, як Геркулес». Выключна вялікая роля чыгуначнікаў Беларусі была ў разгортванні класавых бітваў пралетарыяту ў рэвалюцыі 1905 г., у падрыхтоўцы і правядзенні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Як з чыгуначнай інтэлігенцыі, так і з чыгуначных рабочых выйшла нямала выдатных дзеячоў беларускай культуры. Адно з самых пачэсных месц належыць Уладзіславу Галубку. Сын чыгуначніка, ён і сам, рана страціўшы бацьку, прайшоў першапачатковую жыццёвую школу на чыгунцы, працуючы там грузчыкам, а пасля слесарам у дэпо. Цяжкае юнацтва не толькі не забіла, а яшчэ больш загартавала яго выключна адароную натуру. Менавіта знаходзячыся ў асяроддзі чыгуначнікаў, ён выявіў усебаковую мастацкую зацікаўленасць.

# ТЭМПЕРАТУРЫ І ХАЛОДНАЕ КІПЕННЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

Паэзія Ніла Гілевіча вартая добрых слоў. Можна нямала гаварыць пра яго ўстойлівую паэтычную культуру, пра сапраўднае ўменне падтрымліваць творчы тонус і накіроўваць позірк на актуальныя, надзённыя пытанні жыцця і літаратуры, пра шырыню інтарэсаў і разнастайнасць пошукаў. Але ж і ў дачыненні да яго ў крытыкі ёсць падставы адзначаць і выпадкі творчай інерцыі, распыленасці натхнення, неабавязковасці і прыблізнасці мастацкіх рашэнняў. Дык ці можна дзяліцца сваімі меркаваннямі і сумненнямі пра гэта без пагрозы залічэння ў «занадта сярдзітыя крытыкі»?

ДАРЭЧЫ, як мне ўяўляецца (я ўсё яшчэ трымаю ў памяці гэты злапчасны верш пра сярдзітага крытыка, але маю на ўвазе ўжо не Ніла Гілевіча, а некаторых іншых нашых паэтаў), сёння ў многіх вершах асоба лірычнага героя выводзіцца ідэалізаванай, падкрэслена «станоўчай». Выбіраюцца сітуацыі, з якіх вынікае зададзеная «станоўчая» ацэнка маральнай пазіцыі і лірычных паводзін героя. Жыццёвыя факты не становяцца пры гэтым часткай той «празаічнай» рэальнасці, якая існуе ў сваіх вострых канфліктах і складаных узаемаадносінах, у развіцці і руху. І сітуацыі невыпадкова вырашаюцца рытарычна. Рыторыка становіцца абавязковым кампанентам мастацкай схемы, бо іначай сумясціць ідэалізацыю з рэалістычнай тыпізацыяй наўрад ці магчыма.

Зразумела, што носьбіты такой тэндэнцыі не могуць цвяроза рэагаваць на крытыку, ім патрэбны тыя паслужлівыя крытыкі, якія б пацвярджалі рэальнасць іх прыхарошанага аблічча.

Нешта мала і рэдка даводзіцца нам ачышчацца ў паэзіі праз бязлітасны самасуд. Нямногія з так званага філалагічнага пакалення, якое, лічыцца, ужо ўступіла ў сталасць, паведалі нам гісторыю сваіх складаных шуканняў, заблуджэнняў, памылак. Іх жыццёвыя лёсы разгортваюцца ў літаратуры неяк па-дзіўнаму проста і прама.

Рэдка хто асмеліцца сёння сказаць сабе, «забыўшыся» на чытачоў, крытыкаў і ўвесь свет: «И, с отвращением читая жизнь мою, я трепещу и проклинаю...» Гэта класікі маглі гаварыць: «Мой дар убог, и голос мой негромок...» Або так звяртацца да Музы: «И если дар мой пред тобой ничтожен, то ревностью не ниже я других». У нас гэта неяк менш прынята і не вельмі прамаўляецца. Затое асляпленне ўласнай музай становіцца агрэсіўным, яно вымагае ад крытыкі высокіх атэстацый, хвалебных рэцэнзій, артыкулаў і манаграфій.

Гэта, вядома, зусім не вызначальнае ў нашым літаратурным працэсе. На сённяшні дзень беларускай паэзіяй дасягнуты немалыя ідэйныя і эстэтычныя, гуманістычныя вышыні. Карціна нашага жыцця, уяўленні пра час, людзей і чалавецтва намнога паглыбіліся і ўзбагаціліся, дзякуючы творчасці многіх паэтаў. Пра гэта віцалася ўжо ў нас грунтоўна і неаднойчы.

Але мастацкі прагрэс адбываецца ў штодзённым супрацьдзеянні з усялякімі праявамі схематызму і шаблону, з перапевамі і падробкамі. Калі мы хочам бачыць усю паўнату, складанасць і шматграннасць літаратурнага працэсу, нам трэба спыняць увагу не толькі на дасягненнях.

Той, хто цікавіцца станам і развіццём сучаснай паэзіі, хто жыве ёю, не можа не адчуваць заклапочанасці: ці не слабне яе грамадзянскі тонус, ці не змяншаецца яе сацыяльная актыўнасць, ці адпавядае яе эстэтычны ўзровень духоўнаму зместу сучаснасці, ці не паступаюцца некаторыя яе творцы важнымі задачамі і прынцыпамі паэтычнай творчасці? Наўрад ці можа ісці гаворка пра мабілізацыю на творчасць усіх сіл, усяго вопыту ў аўтараў мноства бяскрылых, апісальных, пазбаўленых унутранага гарэння радкоў. А верш — гэта заўсёды гарэнне, чарадзейства, выбуховы ўзрыў энергіі, інтэнсіўнасць пачуцця, згушчаны ў перажыванні вопыт і — высокае намаганне творчай волі, натхненне, палёт.

У вялікае тэатральнае мастацтва з чыгункі прыйшоў і Уладзімір Крыловіч, які побач з другімі шматлікімі вобразамі стварыў на беларускай сцэне і вобраз нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

Будучы малым хлопчыкам, Міхась Лынькоў, які рос у сям'і чыгуначніка, марыў стаць паравозным машыністам. І хоць ім ён не стаў, але, прыйшоўшы ў беларускую літаратуру ў 20-я гады, ён абагаціў яе новымі тэмамі і героямі, узятымі з чыгуначнага жыцця. А стары машыніст, герой грамадзянскай вайны Андрэй Лятун з аднайменнага апавядання М. Лынькова стаў у беларускай літаратуры непераўзыйдзеным класічным вобразам прадстаўніка рабочага класа, новай старонкай у яе развіцці. Створаны пісьменнікам вобраз Міколкі-паравоза з'яўляецца кумірам нашай савецкай дзетвары.

Усю сваю творчасць прысвяціў паказу жыцця чыгуначнікаў Хвядос Шынклер. Ён таксама вырас у сям'і чыгуначніка, а пасля і сам стаў чыгуначным тэлеграфістам. У сваіх творах ён паказаў узраджэнне чалавека ва ўмовах савецкага жыцця («Стрэлачнік Мігай»), раскрыў гераізм чыгуначнікаў («Апошні рэйс», «Чмута»), стварыў вобраз камуніста-чыгуначніка («Сонца пад шпалы»). У «Запісках інструктара Томана» вельмі цікавы вобраз старога машыніста Вейса, які, накшталт Андрэя Летуна, не можа жыць без чыгункі.

У Вялікую Айчынную вайну Хв. Шынклер зноў становіцца тэлеграфістам і піша свае запіскі «Пульс жыцця», у лаканічных радках якіх пісьменнік змог перадаць напружаны пульс ваеннага жыцця. Таленавіты пісьменнік-чыгуначнік гераічна завяршыў сваё жыццё пад Сталінградам.

Свой неацэнны ўклад у вялікую перамогу народа над фашызмам унеслі і беларускія чыгуначнікі. Гэта яны далі Канстанціна Заслонава, аднаго з самых праслаўленых герояў-партызан, чыё імя стала нашай легендай і сімвалам мужнасці савецкага чалавека. Жыццё-подзвіг Канстанціна Заслонава знайшло сваё мастацкае ўвасабленне ў разнастайных жанрах беларускай літаратуры і мастацтва: у прозе (эпапея «Векапомныя дні» М. Лынькова), у драматургіі і тэатры (спектакль тэатра імя Я. Купалы «Канстанцін Заслонаў» па п'есе А. Маўзона), у музыцы («Песня пра Заслонава» У. Алоўнікава і опера «Андрэй Касценя» М. Аладава), у выяўленчым мастацтве (карціна «Канстанцін Заслонаў» Я. Зайцава) і інш.

Побач з гераікай Вялікай Айчыннай вайны ў творах літаратуры і мастацтва паказаны і працоўныя будні нашых чыгуначнікаў у пасляваенны час. Асабліва вялікую ўвагу гэтай тэме аддаў пісьменнік Яўген Васілёнак (зборнік «Зялёныя агні», п'еса «Каралеўскі гамбіт» і інш.). Па-ранейшаму шэрагі дзеячоў беларускай культуры ўзбагачаюцца і за лік чыгуначнікаў. Так, напрыклад, паэт Анатоль Грачанікаў — выпускнік Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.

За апошні час у Беларусі, як і ва ўсёй краіне, непамерна развіўся аўтадарожны транспарт, вырасла авіяцыя. Але гэта нікольк не зменшыла значэння чыгункі. Яна па-ранейшаму — і магістраль эканамічнага ўздыму нашай рэспублікі, і артэрыя духоўнага ўзбагачэння нашага народа.

# ДНІ ТВОРЧАЙ ВУЧОБЫ

*22 лістапада, як мы паведамлялі ўжо, у Доме творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах пачаў сваю работу творчы семінар літаратурных пачаткоўцаў — маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў.*

*У дзень адкрыцця семінара да маладых літаратараў прыехалі першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Шамякін, сакратар праўлення Мікола Ткачоў, адказны рэдактар часопіса «Маладосць» Алесь Асіпенка, пісьменнікі Алена Васілевіч, Анатоль Вярцінскі, Мікола Гамолка, Уладзімір Паўлаў.*

*Са словам пра літаратурную працу, пра высокі гонар і вялікую адказнасць быць літаратарам звярнуўся да пачаткоўцаў Іван Шамякін. Ён гаварыў аб праблемах развіцця і актуальных задачах савецкай літаратуры, заклікаў маладых літаратараў актыўна вывучаць жыццё, вучыцца літаратурнаму майстэрству. Алесь Асіпенка падзяліўся думкамі аб творчасці ўдзельнікаў семінара.*

*Цяпер на семінары — дні творчай вучобы.*

*Сёння мы друкуем вершы маладых паэтаў, удзельнікаў каралішчавіцкага семінара.*

### Алена РУЦКАЯ

●

**Не магу я ў сабе разабрацца, —**
**Зразумець сваё ўласнае сэрца.**
**І, здаецца ж, не панна з палаца,**
**Што ад смутку не знае дзе дзецца.**

**Так жыву я ў вечнай трывозе**
**І наткнёна нешта шукаю,**
**Як натрапіць, пайсці па дарозе,**
**Што да светлых імчыцца маяў!**

**Не магу я ў сабе разабрацца,**
**Як у звоне загадкавых гусляў.**
**І таму я не панна з палаца,**
**Што пражыць бясследна баюся.**

### Ніна ШКЛЯРАВА

●

**А нядаўна так шумела**
**Маё юнае жыццё!**
**І стаяла я, няўмелая...**
**А дзе ж мудрасць! Каб знаццё!**

**Са мной дрэвы больш, чым дваццаць,**
**Зелянелі ўжо гадоў.**
**Дык калі ж маё юнацтва**
**Скажа пару мудрых слоў!**

**І аднойчы мне здалося,**
**Што шапнулі кроны дрэў:**
**Быць наіўнаю не бойся,**
**Беражыся стаць мудрэй...**

**Арабінай пераспелаю**
**Зажурылася жыццё...**
**І стаю я, пасталелая.**
**Дзе ж наіўнасць! Каб знаццё...**

### Васіль ЖУКОВІЧ

●

**Паклон вам, буслы, што ў палёце,**
**Табе, з гняздом бусліны дах,**
**Табе, забыты збан на плоце,**
**Табе, палынны горкі пах.**

**Прыслухаешся — побач з полем**
**Бярозка ціхенька шуміць...**
**І светлай радасцю і болем**
**Тут сэрца сынава баліць.**

**Пасля далёкае дарогі,**
**А у мяне іх шмат, дарог,**
**Пакіну заўтра зноў парог я,**
**Як сонца скоціцца за стог.**

**Ды ўсё, што бачу,**
**усё, што чую,**
**У гарачым сэрцы берагу.**
**І вершам гаварыць хачу я.**
**І ўжо інакай не магу.**

### Уладзімір РУДЗІНСКІ

## АЛЁНА

**Ёсць на свеце**
**розныя імёны**
**Але з іх**
**па сэрцу мне**
**адно:**
**Простае,**
**пяшчотнае —**
**Алёна.**
**Чуеце —**
**як музыка яно!**
**...Летнім ранкам**
**жаваранак звонкі**
**Песню аб каханні зацягнуў.**
**Слёзы выціраючы,**
**Алёнкі**
**Выпраўлялі любых**
**на вайну.**

**У цішы начной шумелі клёны,**
**Кулі прыціскалі да зямлі.**
**Да байцоў параненых**
**Алёны**
**З сумкай санітарнаю**
**паўзлі.**
**Зачапіўся ў небе**
**месяц тонкі,**
**Перамогу прынясла вясна**
**Толькі вось**
**не ўсім тады Алёнкам**
**Аддала іх суджаных**
**вайна...**

### Анатоль КРЫВІЦКІ

●

Памяці Леаніда Якубовіча, маладога паэта-шахцёра.

**Чэрвень, чэрвень,**
**травы ў росах золкіх,**
**А за вёскай**
**чорныя капры,**
**Адцвілі ці зацвітаюць смолкі,**
**А ісці не больш вярсты за тры.**

**Пачакай над полем жаўруковым,**
**Прыпыні той недарэчны лёс,**
**Паглядзі, ў блакіце васільковым**
**Промень ласку першую данёс.**

**Скарачаецца жыцця адлегласць, —**
**Хоць дарогі жорсткай не відно.**
**Беззваротная сцяжынка легла,**
**А туман —**
**хаўтурным палатном.**
**Ныюць рукі той глыбіннай соллю,**
**Ад якой у славе Салігорск.**
**Паглядзі, над Радкавам таполі**
**Прама мецяць да нябесных зор.**

**...Клецъ ляціць, ды здрыганецца**
**толькі**
**Пад няўцямнай сілаю капроў.**
**А ля хаты —**
**водар мяты волкі**
**Гаркатою маладых лісткоў.**

### Алесь РАЗАНАЎ

## ЎЗДЫМАЦЦА ДРЭВУ МАЛАДОМУ

**Надломы — не яму надломы,**
**пярун — і гэта не яму...**
**Уздымацца дрэву маладому**
**мацнець праз лета і зіму.**

**І захаваць не проста звесткі,**
**а запавет на ўсе часы:**
**тады выстойваюць падлескі,**
**калі выстойваюць лясы.**



Перад удзельнікамі семінара выступае Іван Шамякін.

Фота Ул. КРУКА.

Можна, вядома, не да канца напружваць душу і думку, выдаткоўваць не ўсю творчую энергію. Але такое паслабленне ўнутранага ціску непазбежна вядзе і да зніжэння паэтычных тэмператур. Тады і адбываецца «халоднае кіпенне»: пачуцці драбнеюць, асоба змяншаецца, губляючыся ў дробязях і выпадковасцях, а тэмпературу кіпення вызначаюць нязначныя стымулы, і «мгновенные созданья поэтической мечты исчезают от дыханья посторонней суеты».

АЛЕ НЕ ТОЛЬКІ малой ступенню «давершавага адчування» (тэрмін Ю. Тынянава) вытлумачваюцца, аднак, некаторыя вершаваныя няўдачы. Нярэдка ў творчасці адных і тых жа паэтаў значныя творы чаргуюцца з павярхоўнымі, пазбаўленымі сур'ёзных паэтычных адкрыццяў.

Крытыкі не раз звярталі ўвагу на тое, што нашай паэзіяй яшчэ недастаткова акрэсліваюцца многія новыя пазначаныя часам з'явы і асаблівасці сучаснасці. Дашукваючыся прычыны, мы не можам не бачыць, як часта ў паэтычных творах апошніх гадоў і сацыяльна-грамадскае жыццё, і свет чалавечых перажыванняў бяруцца і раскрываюцца ў звыклых ракурсах і «параметрах», у межах адных і тых жа жыццёвых і эмацыянальных пластоў.

Характэрнымі паэтычнымі і стылявымі з'явамі ў нашай паэзіі апошніх гадоў сталі, напрыклад, ідылічнасць, замілаванне, змрочна-тужлівыя ці светла-тужлівыя ўспаміны маленства і блізкія да іх віды лірычных стэрэатыпаў. А шмат што вызначальнае, не менш істотнае ў лёсах, справах, клопатах сучаснікаў, застаецца пакуль што за сферай паэзіі.

Я люблю многія вершы Антона Бялевіча і глыбока паважаю паэта. Зрэшты, ніхто, мабыць, і не адмовіць многім вершам паэта ў шчырасці і пэўнай прывабнасці. А. Бялевіч умее выказацца чыста і выразна, ён можа захапіць прыгожым і моцным пачуццём, форма ў яго творах звычайна арганічная і натуральная. Але, мне здаецца, паэту трэба адолець некаторыя ўнутраныя бар'еры, каб наблізіцца да асэнсавання новых жыццёвых складанасцей і супярэчнасцей. Сярод гэтых бар'ераў — і стылёва-пачуццёвы рамантызм, які слабіць псіхалагічны аналіз, і статычная фальклорнасць, і блізкія да самапаўтораў варыяцыі падобных вобразаў і словазлучэнняў, часты зварот да аднатыпных настраёва-славесных формул.

Пэўнай інертнасцю пазначаны некаторыя вершы Сяргея Грахоўскага, паэта мэтанакіраванага і грамадска-актыўнага. У «Паэме дарог» — адным з галоўных твораў апошніх гадоў — паэт імкнецца да шырокага паэтычнага роздуму пра жыццё, але ў паэме, побач з паэтычнымі адкрыццямі, багата і ўжо вядомых нашай паэзіі, засвоеных ёю ісцін, з якімі творчы вопыт аўтара суадносіцца па ўжо вядомых схемах. Абагульняючая думка аўтара звязваецца з тымі момантамі біяграфіі, якія не маюць унутранай характэрнасці...

Кожны, хто захоплены паэзіяй, хто бязмежна верыць у яе, ведае, што любая размова пра паэзію павінна весціся з асаблівай беражлівасцю. Тут ніколі не зашкодзяць памяркоўнасць, далікатнасць, тактоўнасць. Але самая пільная асцярожнасць не вызваляе крытыка ад неабходнасці быць не ружовым рамантыкам, а цвярозым рэалістам. Дбаць пра літаратуру, хварэць за яе — значыць не толькі вітаць удачы, бачыць дасягненні, але і прама, адкрыта звяртаць увагу на тое, што слабіць яе, замінае руху наперад.

Хочацца верыць, што размова пра крытыку атрымаецца двойчы плённай. З аднаго боку, яна падтрымае крытыку і актывізуе яе. З другога — гэта размова будзе карыснай для усёй літаратуры, падключыўшыся да агульна-літаратурных праблем.

Дыскусіі, як вядома, твораў не даюць. Людзі рупяцца, разважаюць, спрачаюцца, але не-не, ды і згадаецца нешта такое, як вось гэтыя словы Баратынскага:

**Из нас, я думаю, не скажет ни**
**единый**
**Осине: дубом будь, иль дубу — будь**
**осиной;**
**Меж тем как странны мы! Меж тем**
**любой из нас**
**Переиначить свет задумывал не раз.**

Але адкінем скептыцызм. Будзем спадзявацца, што гаворка пра крытыку на старонках «ЛіМа» бясследна не пройдзе. А падставы для спадзяванняў ёсць — адбываецца шчырая і змястоўная размова.

*Выдатны аварскі паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі Расул Гамзатаў — госць Мінска, госць Беларусі. Яго цудоўную паэзію ў нас ведаюць і любяць, ён сустрэнецца ў Мінску са сваімі сябрамі-чытачамі і з калегамі па пяры. Яго творы ўжо гучалі на беларускай мове. Нядаўна ў нашым штотыднёвіку былі змешчаны вершы паэта ў перакладах Сяргея Грахоўскага. Неўзабаве ў выдавецтве «Беларусь» пабачыць свет кніга выбраных твораў нашага аварскага сябра. Сёння мы прапануем увазе чытачоў яго паэму ў перакладзе народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.*

Расул ГАМЗАТАЎ



# ВЕСТАЧКА З АУЛА

1

Лістоў нямала з рук паштовых
Я атрымаў у розны час —
Не выпадковых, выпадковых,
Пустых і смешных іншы раз.

У тых — хвальба, а ў тых — папрокі,
А ў трэціх — боль і горыч слёз.
Радкі ў чацвёртых,— як урокі,
А ў пятых — пералік пагроз.

Я ўсе іх клаў на сэрца шалі.
І з гордасцю, не ўпершыню,
Чытаў лісты, што аддавалі
Мяне апале, як агню.

Якой бы не была апала
Дэклараваная мне ў іх,
Лягчэй жылося мне, бывала,
Ад вестак, сэрцу дарагіх.

Сталічны штамп гасіў іх марку
Альбо аульская пячаць,
Я мог ім почырк, стыль, памарку
За змест і шчырасць даравацъ.

На марках часам красавалі
Арлы, сланы, ці каралі,
Каторых вартасць пагашалі
Замежнай пошты штэмпялі.

Усе мы ад лістоў залежым,
Што парушаюць наш спакой,
Напісаныя прозай, вершам,
Яны ляцелі ў адрас мой.

Ад юнакоў яшчэ не сталых,
Тых, што апeрыліся ледзь,
Ад засяроджаных і дбалых
Старых, чый горкі лёс — сівець.

Ад тых, што вартасць хлеба знаді,
Зямлю аралі, і ад тых,
Што сцэну да канца абралі
Адзіным хлебам душ сваіх.

Паэтаў, вешчай музай хворых,
За іх лісты я не забыў.
Хаваў лісты жанчын, каторых
Я некалі багатварыў.

Лісты ляцелі, як чароды,
І кожны нёс, як часу плынь,
То холад ранняй непагоды,
То вёснаў раннюю цяплынь.

У свой бы гонар да апошняй
Старонкі ўсе іх пазбіраць,
З усмешкай і тугою позняй,
Нібы аповесць, прачытаць.

Падзеі б ажылі былыя,
Людзей імёны, твары іх,
Ды гінулі старонкі тыя
Злачыннай справай рук маіх.

Я ў печку іх кідаў калісьці,
І грэў іх полымем далонь,
Так на зыходзе жнівень лісце
Шпурляе ў восені агонь.

Рваў іншыя, як і цяпер я —
Не мела літасці рука.
Бялела шмоцце іх, як пер'е
Абскубленага гусака.

Не крыўднай слабасці адзнака,
Не раз я на сваім вяку
З тугою гібель іх аплакаў,
Як стэп засохлую раку.

Лісты, лісты!
Сярод сірочых
Радкоў ёсць і такая быль,
Што не парваць — пры чым тут
почырк,
Што не спаліць — пры чым тут стыль.

Непадначаленыя страце,
Усе, усе пры мне яны.
Нібыта пры старым салдаце
Яго рубцы і ордэны.

Між пісем тых, што захаваны,
Ёсць запаветнае адно,
З ім — багацейшы я за пана,
Мне даражэй за скарб яно.

Нагадваюць лясных галубак
Мне літары таго пісьма.
Дзе некаторых, сэрцу любых,
Слоў, сцёртых даўнасцю, няма.

Вас, калі б трапілася часам,
Не вельмі ўразіла б яно,
Пакінутае без адказу
Несправядліва і даўно.

Да родных гор гару імкненнем,
І, прыгадаўшы светлы час,
Пішу, хаця і са спазненнем,
Сваю паэму, як адказ.

2

Студэнтам быць мне давялося,
Сын гор — здружыўся я з Масквой.
І на Цвярскім бульвары восень
Кружыла лісце нада мной.

Хоць лекцый слухачом ахвотным
Быў я, але й цану ім знаў.
У інтэрнаце жыў, а потым
Сабе пакой прыватны зняў.

Насіў я гальштук паласаты,
Папаху кепкай замяніў.
Спаць клаўся позна: я да хаты
Прыходзіць рана не любіў.

Я думаў, жыў па-маладому
З гарачым пачуццём душы.
І чалавечаму, людскому
Я і дагэтуль не чужы.

Паэты, верныя сумленню,
Мы строга ўзважвалі радкі.
Быў і сапраўднаму натхненню
За сведку наш бульвар Цвярскі.

Чужых радкоў суддзя суровы,
Я тонкіх знаўцаў паважаў
І пераклад свой падрадковы
Не раз таварышам чытаў.

А над Масквой плылі хмарынкі,
Іх вецер поўдня гнаў якраз
З Каўказскіх гор, ад той
дзяўчынкі,
Што перайшла ў дзевяты клас.

Мне помніцца, як даўнім летам
Дражніліся зацята з ёй
Сябры дзяцінства і пры гэтым
Нявестай клікалі маёй.

3

З прылётам ластавак вясновых,
Калі пісьмо яе прыйшло,
То ўсе завеі зім суровых
Нібы рукой з душы змяло.

І ад таго канверта,
мылам
Заклеенага, на мяне
Павеяла і нечым мілым
І запаветным па вясне.

Знаёмы почырк на канверце
Мне нагадаў дзяўчынку гор,
Якую мне ў нявесты меціў
Майго маленства дружны хор.

На марцы штамп цадзінскай пошты.
Ускрыў канверт — і свет пайшоў
Кружыцца раптам ад таго, што
Да родных слоў прыпаў я зноў.

Хаця мяне зусім звычайна
Дзяўчынка гор вітала ў іх,
Але хаваўся сэнс патайны
У самых простых словах тых.

Пісала мне аб школьным хоры,
Паведамляла заадно,
Што быў сусед зімою хворы,
Але паправіўся даўно.

Нібы чароды птушак — словы.
Я, ўсхваляваны, прачытаў
Аб тым, што дождж прайшоў
вясновы,
Што снег даўно ў гарах растаў.

Пасля з адвагай ястрабінай
Пяро зрабіла разварот,
І слову нейкаму — з птушынай
Сям'і — закрэсліла палёт.

Лугоў завоблачных крывінка —
Адзін я ведаю чаму —
З трыма лісточкамі травінка
Была даверана пісьму.

Я некалі ў лясным куточку,
Паводле звычаю, зрываў
Сэрцападобных тры лісточкі,
Калі «нявесту выбіраў».

Забава даўняя. Ды зноў я
Чытаў пасланне,
у якім
Жадала мне яна здароўя,
Хоць я здаровы быў зусім.

Калі ж пісьмо, што напісала,
Яна падпісваць пачала,
З пяра на імя кропля ўпала,
Нібыта каменем лягла.

І я таму віной, здаецца,
Перад дзяўчынкаю ў даўгу,
Бо, як не сілюся, а з месца
Той камень зрушыць не магу.

Пра вестку з горскага аула
Ці не замнога я пішу!
О не, яна перавярнула
Маю шматгрэшную душу.

Пад грук і сварку кол і рэек
Нібыта ехаў дзень і два
І з цягніка раптоўна неяк
Я злез пустая галава.

На тым паўстанку мімалётным
Быў нечаканай вестцы рад,
І — з пачуццём яшчэ маркотным,
Чамусьці павярнуў назад.

Перада мной мільгалі вёсны,
Як сосны за акном маім.
Я адначасна і дарослым
Сабе здаваўся і малым.

4

Не абмінаючы павагай
Другіх пачуццяў, не магу
Я абысці сваёй увагай
Пачуццяў тых, што берагу.

Ці адшукаю выйсце слову,
Душ чалавечых сувязны!
Аб пачуцці святым размову
Я з зоркай вёў у час начны.

З крутой скалы на перавале
Глядзеў я моўчкі ў глыб нябёс,
Пакуль мой позірк не заслалі
Дзве кроплі гаркаватых слёз.

І падмаскоўныя бярозы —
Як над Гунібам дарагім —
Са мною гледзячы ў нябёсы,
Аб пачуцці шапталі тым.

Душа сціскалася ягонай
Шчымлівай светлаю тугой.
Міналі дні чаргой законнай,
Усталяванаю не мной.

Не вязнем пачуццёвай прагі
І я па свеце калясіў,
Ды кожны раз адны развагі
Прывозіў я адтуль, дзе быў.

Глядзеў з вяршыні Фудзі-Яма
На жураўлёў адлётных я,
Над Гангам бачыў дзверы храма,
Якія сцерагла змяя.

Карміў я чаек перад штормам,
Па рымскіх вуліцах блукаў,
І ў Луўры перад непаўторным
Слоў не знаходзячы, ўздыхаў.

Ды меў адно я парыванне,
Адным быў поўны пачуццём,
Што абвастрае вандраванне —
Хутчэй вярнуцца ў родны дом.

Пачуцце гэтае спрадвеку
Крыві значэнне набыло
І горда сэрца чалавека
Над гучнай славай узняло.

Для нашых спрэчак, спраў
адзіны
І найвышэйшы суд яно.
Яго любоўю да радзімы
Не я адзін заву даўно.

Як перад вечным і ўладарным
Слоў не знаходзячы, змаўкаў,

НАДЗЁННАЕ, НЕАДКЛАДНАЕ

# СЛОВА ДА СЯБРОЎ ГАЗЕТЫ

Закончылася падпіска на 1972 год на рэспубліканскія літаратурна-мастацкія выданні. У сем'і многіх новых чытачоў паштальёны будуць прыносіць часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Неман», «Бярозку» і «Вясёлку». На розны густ і розны ўзрост падпісчыка. Прыемна, што і ў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» — адзінай у Беларусі газеты, якая шырока асвятляе на сваіх старонках пытанні літаратуры, культуры, мастацтва рэспублікі і важнейшыя сацыяльна-грамадскія праблемы, — з'явілася нямала новых сяброў, якія падпісаліся на гэтае выданне.

Такая пільная ўвага да газеты з боку чытачоў абавязвае калектыў рэдакцыі ў новым годзе яшчэ больш рабіць, каб чытачы і грамадскасць рэспублікі ведалі пра выхад у свет новых твораў, былі ў курсе важнейшых спраў літаратурнага працэсу, яшчэ шырэй асвятляць тэатральнае і музычнае жыццё, пісаць пра нашу кінематаграфію, выяўленчае мастацтва, архітэктуру, расказваць аб рабоце бібліятэк, клубаў, музеяў, калектываў мастацкай самадзейнасці, народных умельцаў, кінафікатараў, работнікаў кніжнага гандлю Беларусі, друкаваць нарысы пра нашага сучасніка, аператыўна адгукацца на важнейшыя грамадска - палітычныя падзеі. Спадзяёмся, што ў вялікай і пачэснай рабоце па прапагандзе рашэнняў XXIV з'езда КПСС нам будуць актыўна памагаць нашы аўтары, якіх у новым годзе ў нас будзе значна больш. Вашы пісьмы, дарагія таварышы, вашы прапановы, артыкулы і паведамленні з месц ажывяць старонкі штотыднёвіка цікавымі, надзённымі матэрыяламі.

А пакуль што хочацца выказаць словы шчырай падзякі ўсім грамадскім распаўсюджвальнікам газеты «Літаратура і мастацтва», партыйным і прафсаюзным арганізацыям творчых саюзаў, тэатраў, органам культуры, усім, хто прымаў і прымае актыўны ўдзел у прапагандзе нашага выдання. Гэта — перш за ўсё акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Вялікую арганізатарскую работу па падпісцы на штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» праводзіць у калектыве заслужаная артыстка БССР Алена Рынковіч. Сярод пастаянных падпісчыкаў на газету вядучыя артысты П. Малчанаў, З. Стома, С. Станюта, С. Бірыла, мастакі А. Грыгар'янц і Б. Герлаван, кампазітар С. Картэс, рэжысёр В. Раеўскі, дырэктар тэатра І. Міхалюта, рэквізітар Г. Сімкіна, работнік электрацэха К. Падвішанская, бухгалтар В. Пагоцкая і многія іншыя. Сёння ў тэатры на штотыднёвік падпісалася 45 чалавек.

І ў Дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа гэтай справе нададзена таксама вялікая ўвага. На працягу некалькіх гадоў арганізацыяй падпіскі займаецца тут заслужаная артыстка рэспублікі Галіна Маркіна. 25 артыстаў і работнікаў тэатра—пастаянныя падпісчыкі і чытачы нашай газеты.

Добрага слова падзякі заслугоўваюць артыст Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску В. Філатаў, загадчык літаратурнай часткі тэатра музычнай камедыі А. Казлоў. У гэтых маладых творчых калектывах рэспублікі знайшлося нямала падпісчыкаў на «ЛіМ».

Калі гаварыць аб падпісцы ў раёнах і абласцях рэспублікі, то прыкладам умелай прапаганды «Літаратуры і мастацтва» можа быць Быхаўскі раён (загадчык аддзела культуры В. Зайцаў), дзе ўжо сёння ёсць

Так і яго размовам марным
Ніколі я не давяраў.

І сніў, што сонца акунула
Сябе ў ручай пасля начы,
Сніў, што дзяўчына да аула
Ішла са збанам на плячы.

І нібы ажываў глыбокі
Сэнс незабытага пісьма:
Кіпелі горных рэк вытокі,
І спела пад акном хурма.

І вось радок ператварыўся
Ужо ў дымок па-над страхой,
І каляінкаю павіўся
Услед за дрогкаю арбой.

І я іду над стромкай кручай,
І дзьму ў свісцёлку як мага.
І побач чарадой лятучай
Клубіцца воблакаў пурга.

І вечар чырвані палоскай
Фарбуе горы ў сіняве.
І маці, стоячы на плоскай
Страсе,
        заве мяне,
                заве.

З тых дзён гадоў прайшло нямала,
Але ўвесь час здаецца мне,
Што маці, гэтак як стаяла,
Стаіць,
        заве,
                заве мяне.

У непагодны і ў пагодны
Дзень, на адлегласці любой,
На матчын кліч такі падобны,
Я чую кліч зямлі сваёй.

Ні ад чаго не адракуся,
Гатовы ўсё пачаць з азоў,
З далечыні я адзавуся
На покліч гэты зноў і зноў.

Дзяўчынка гор, ці не па гэтай
Прычыне верны я гарам!
А хіба цяжка іх наведаць,
Ліст прачытаў — і нібы там.

5

Ты адкажы мне, гор дзяўчынка,
Хіба не пільны позірк мой!
Ці не твая — вунь там — хусцінка
Зноў прамільгнула над страхой!

Ты не бяжы, мая суседка,
Але пазбегні злой тугі.
Іду аулам, дзе не рэдка
Пачуеш мудрасць Ізбагі.

Чароўных гор абрыс суровы.
Мне рады маці, бацька мой.
Ах, бацька, ён яшчэ здаровы!
Яшчэ ён маладзец сабой!

Сустрэў на вуліцы Басыра.
Аб Бухарэсце зноў і зноў
Размову ён заводзіць шчыра
І шрамы паказаць гатоў.

Свая міліцыя — прывыклі.
І мне рукой махае тут,
Пыл метучы на матацыкле,
Упаўнаважаны Махсуд.

Як чарка чарцы ў час спаткання,
Сябрам маленства, як раней,
Я рад і, не без спадзявання,
Бяру на рукі іх дзяцей.

Тут мода бурак панавала,
І мне шкада, што ў землякоў
Чаркесак менш, як быццам, стала
І больш цывільных пінжакоў...

Пісьмо чакаю...
                На сцяжынку
Радкі падобны, і на іх
Я бачу першую травінку
І п'ю ваду з крыніц жывых.

Я думкай на вяршынях гордых,
З аулам зноў душа мая.
Загінуўшых, што ўсталі з мёртвых,
З жывымі побач бачу я.

Аратых, воінаў ранейшых,
Салдат, што сёння — чабаны.
І двух братоў маіх старэйшых,
Што не вярнуліся з вайны.

З маленства дарагім парогам,
Дарогам свой паклон нясу,
І гавару, як перад богам,
Змахнуўшы са шчакі слязу:

«Аул мой родны, кут ласкавы,
Дзе б я ні быў — з табою я,
Вышэй ты славы і нясланы,
Калыска сынняя мая.

Вось наша сакля, дзе ў каміне
Ніхто агню не варухне,
Але гарыць, гарыць, не гіне
Ён, пераселены ў мяне.»

Вось нібы сіверам падзьмула,
Я чую голас не адзін:
«Таўчэшся ўсё вакол аула,
Ці ты не ўсёй дзяржавы сын!»

Не знае хтосьці, мне на гора,
Што веліч сонечнай красы
Убачыць можна каля мора,
А можна — ў кропельцы расы.

Не, я ў любві сваёй упарты,
Айчыны-маці сынам быць
Я быў бы, сапраўды, нявартым,
Каб маці мог сваю забыць.

Піць з многіх рэк ваду гатовы,
Я не забыў крыніц сваіх.
Без клёкату аварскай мовы
Я стаў бы ў міг нямы з нямых.

Жыхар Цада, каўказец родам,
І за айчыннаю мяжой,
Здаецца, вартым быў заўсёды
Я пасланцом дзяржавы ўсёй.

Ды хтось не бачыць, безумоўна,
Што ў дні і шчасця і пагроз
Жыццём сумесным зліты кроўна
Аула і дзяржавы лёс.

Што тут даводзіць! Без вагання
Хіба не нашых гор сыны
Дзеля краіны ўратавання
Галовы склалі ў час вайны!

Да сказанага, з поўным правам,
Яшчэ дадаць я слова рад:
Як справы ладзяцца ў дзяржавы,
Дык і ў ауле добры лад.

І на плячах сваіх дзяржава
Трымаць надзейна будзе вас,
Аулы гор, высокай явай
Пад самым небам увесь час.

І ты, зялёная галінка,
Святла праменьчык, што не згас,
Пачуй мой голас, гор дзяўчынка,
Прымі на вестачку адказ.

Хай над аулам з хмары цёмнай,
Калі сінее небакрай,
Зноў дождж ідзе вясною цёплай
І ластаўкі шчабечуць хай.

Пераклаў Аркадзь КУЛЯШОЎ.

---

каля 200 падпісчыкаў на газету.

Але даводзіцца шкадаваць, што ў паважаным калектыве тэатра оперы і балета не здолелі належным чынам арганізаваць падпіску на штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». У той жа час у рэдакцыю нярэдка прыходзяць акцёры з просьбай даць ім нумар штотыднёвіка. «Там пра мяне напісана, а газеты ў кіёску не знайшоў». Сапраўды, газета ў кіёскі паступае ў абмежаванай колькасці і, каб пазбегнуць гэтых пошукаў, на газету трэба падпісацца.

Падпісацца на штотыднёвік ніколі не позна. Будзем спадзявацца, што ў нас з'явяцца новыя падпісчыкі і ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача, Дзяржаўным драматычным тэатры імя М. Горкага, у Брэсцкім тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі, у Гомельскім, Гродзенскім і Магілёўскім абласных драматычных тэатрах, у Дзяржаўным ансамблі танца БССР, Дзяржаўным сімфанічным аркестры БССР, Дзяржаўным народным аркестры БССР, камерным аркестры і іншых творчых калектывах філармоніі.

Асобай гаворкі заслугоўваюць творчыя саюзы — пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў, архітэктараў. Тут яшчэ можна і трэба многае зрабіць, каб павялічыць колькасць падпісчыкаў на штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».

Хацелася б, каб грамадскасць і нашых навучальных устаноў — музычных вучылішчаў і школ, кансерваторыі, тэатральна-мастацкага інстытута, Мінскага мастацкага і харэаграфічнага вучылішчаў, Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума, Гродзенскага і Магілёўскага культасветвучылішчаў, педагагічных інстытутаў больш увагі звярнулі на прапаганду штотыднёвіка сярод выкладчыкаў і студэнтаў.

Будзем шчыра ўдзячны ўсім грамадскім распаўсюджвальнікам друку, мясцовым партыйным, прафсаюзным і камсамольскім арганізацыям, якія памогуць нам пашырыць кола падпісчыкаў — новых сяброў штотыднёвіка «Літаратуры і мастацтва».

---

# ГЕРАІЧНЫ ДУХ ЭПАПЕІ

*ДЫЯРАМА «МІНСКІ КАЦЕЛ» У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ МУЗЕІ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ*

Гісторыяй становіцца Вялікая Айчынная вайна, хоць боль старых ран не ўціх у ветэранаў. За смугой трыццацігадовай даўнасці паступова сціраюцца асобныя падзеі, некалі яркія эпізоды. Вырасла новае пасляваеннае пакаленне.

Але ні адзін гераічны подзвіг народны не знікне з памяці нашчадкаў. Ён ператвараецца ў песні, легенды, кнігі, кінафільмы, мемарыялы.

Галоўная мэта дыярамы «Мінскі кацёл», створанай для Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Б. Аракчэевым, П. Кралёвым, У. Лагуном, Л. Асядоўскім, — зрабіць у гледача ўражанне саўдзельніка гераічнага дзеяння, увесці гледача ў атмасферу бітвы, у самы момант кульмінацыі драматычных падзей.

У сваёй кнізе «Успаміны і роздум» Маршал Савецкага Саюза Г. Жукаў піша: «У Беларускай аперацыі найбольш поўна праявілася выпрацаванае ў савецкага камандавання ўсіх ступеняў уменне хутка акружаць і знішчаць буйныя групоўкі войск праціўніка».

Войскі Першага Прыбалтыйскага, Першага, Другога і Трэцяга Беларускіх франтоў пры актыўным садзеянні беларускіх партызан нанеслі ў ліпені 1944 года сакрушальны ўдар па нямецка - фашысцкіх войсках і завяршылі акружэнне 105-тысячнай групоўкі гітлераўцаў у лясах на паўднёвы ўсход ад Мінска, адрэзаўшы ім шляхі адступлення на захад.

Перш чым прыступіць да работы над дыярамай, мастакі неаднаразова ездзілі па месцах баёў, карпатліва вывучалі дакументы, матэрыялы, фатаграфіі тых гадоў, расказы і ўспаміны ўдзельнікаў бітвы пад Мінскам. Іх ваеннымі кансультантамі былі Герой Савецкага Саюза генерал - лейтэнант С. Жыгараў, палкоўнік у адстаўцы І. Белавусаў, удзельнікі знішчэння Мінскага «катла» і вызвалення Беларусі.

Галоўная цяжкасць для мастакоў заключалася ў тым, што перад імі, жывапісцамі, якія да гэтага працавалі ў станковым мастацтве, прадстаў зусім новы па сваёй прыродзе і структуры манументальны мастацкі арганізм са сваімі адметнымі законамі, падыходамі, узаемасувязямі розных планаў і перспектыў.

Глыбока драматычная па гучанні карціна бітвы, якая разгарнулася на нашых вачах, стварае адчуванне цяпер ужо блізкай перамогі — і ў гэтым галоўны эмацыянальны зарад твора.

Дыярама — не толькі буйны па плошчы твор, які дасягае дзевяноста квадратных метраў, не лічачы пярэдняга натурнага плана. Гэта, паводле выказвання Героя Савецкага Саюза генерал-лейтэнанта С. Жыгарава, «цудоўны матэрыял для выхавання савецкіх людзей, моладзі, воінаў Савецкай Арміі ў духу высокага патрыятызму, мужнасці, любві да Радзімы».

Удалы выбар месца, выгадны пункт, пры якім выразна чытаюцца планы батальнай кампазіцыі, садзейнічаюць успрыняццю дыярамы ў цэлым, яе дынамікі і псіхалагічнага напалу. Грандыёзная панарама паслядоўна раскрываецца перад нашымі вачыма, як старонкі кнігі воінскай доблесці і славы.

Цэнтральная частка паказвае разгром і знішчэнне Апчацкай групоўкі праціўніка 222-й, 38-й стралковымі дывізіямі і 44-й артылерыйскай брыгадай. Жорсткія баі даходзілі тут часта да рукапашных сутычак.

У левай верхняй частцы твора паказаны цяжкі бой на паўднёвы ўсход ад Мінска, калі часці 157-й і 324-й стралковых дывізій пад камандаваннем В. Кацюшына і І. Козака адкінулі на ўсход магутную групоўку гітлераўскіх войск, якія спрабавалі вырвацца з Мінскага «катла».

У правай ніжняй частцы мы бачым, як уліваюцца ў Савецкую Армію партызанскія брыгады, што аказалі неацэнную дапамогу ў знішчэнні ворага.

Тут жа, у раёне Смілавіч, разгортваецца карціна разгрому фашыстаў воінамі 369-й стралковай дывізіі палкоўніка П. Галайкі, 44-й цяжкай артбрыгады палкоўніка А. Айрапетава і 342-га палка самаходнай артылерыі 49-й арміі.

Вялікі бой дапаўняецца мізансцэнамі, якія расказваюць аб гераізме савецкіх людзей. У цэнтры, на пярэднім натурным плане, у зямлянцы аўтары паказалі сувязную 252-га стралковага палка яфрэйтара Т. Барамзіну ў момант бою з гітлераўцамі, якія напалі на бліндаж, дзе яна перавязвала параненых байцоў. Гераіня доўга адстрэльвалася, пакуль не была схоплена ворагам. Не выдаўшы ваеннай тайны, яна загінула. За гэты подзвіг адважная камсамолка была пасмяротна ўдастоена звання Героя Савецкага Саюза.

Правей, у верхняй частцы дыярамы, паказана разбітая фашысцкая ваенная тэхніка, павержаныя ворагі: тут змагаўся артылерыйскі ўзвод Смірнова. У гэтым баі праславіўся наводчык гарматы старшы сержант Герой Савецкага Саюза А. Аўдзееў. Пасля таго, як загінуў увесь разлік гарматы і выйшлі ўсе патроны і гранаты, мужны воін у рукапашнай сутычцы засек тапаром чатырох фашыстаў і выйшаў з бою пераможцам. Гэты эпізод таксама бачым на дыяраме.

У ніжняй левай частцы паказаны повар другой батарэі 887-га артпалка радавы Я. Зайцаў. Ён у баі 7 ліпеня ў рукапашнай знішчыў чатырох гітлераўскіх салдат і афіцэраў, якія напалі на кухню.

Аб цеплыні і сардэчнасці сустрэч воінаў-вызваліцеляў з мясцовым насельніцтвам расказвае эпізод на заднім плане левай часткі дыярамы.

Тут жа, бліжэй да натурнага плана, паказаны допыт камандуючага войскамі 4-й нямецка-фашысцкай арміі генерала Мюлера, якога ўзяў у палон савецкі разведчык сержант Глотаў. Допыт праводзіць камандуючы 50-й арміяй 2-га Беларускага фронту генерал-лейтэнант І. Болдзін.

На Мінскім участку фронту ў паветраных баях праславіліся Героі Савецкага Саюза лётчыкі - штурмавікі М. Кірэеў і Б. Акрэсцін. Яны паўтарылі неўміручы подзвіг М. Гастэлы. У цэнтры дыярамы паказаны подзвіг малодшага лейтэнанта М. Кірэева, які накіроўвае свой палаючы самалёт на калону фашысцкіх войск...

Каля 70 000 забітымі і 35 000 палоннымі, у тым ліку 12 генералаў страцілі гітлераўцы пад Мінскам. Калоны палонных, якіх суправаджалі на зборныя пункты партызаны і воіны Савецкай Арміі, паказаны на многіх планах дыярамы.

Жорсткая бітва, якая разгарнулася пад Мінскам летам 1944 года з ужываннем вялікай колькасці тэхнікі, змяніла і характар ландшафту. Вырашаючы пейзаж дыярамы, аўтары стараліся захаваць усе асаблівасці прыроднай структуры тых мясцін, дзе ішлі баі.

У значнай меры поспех дыярамнага жывапісу залежыць ад перадачы прасторы, чаму ў многім садзейнічае натурны план. Мастакі ў некаторых месцах добра справіліся з перадачай амаль няўлоўнага пераходу ад бутафорскіх прадметаў да жывапісу на палатне. Транпэі, калы з кавалкамі ржавага дроту, варонкі ад авіябомб і снарадаў, каскі, станіны кулямётаў, ствалы фашысцкіх танкаў — усе гэтыя атрыбуты, уведзеныя ў дыяраму, жыва нагадваюць нам грозныя ліпеньскія дні сорак чацвёртага.

Гаворачы аб якасці твора, нельга не адзначыць і прыкрыя недахопы, дапушчаныя мастакамі: блытаніну ў размеркаванні ценяў ад крыніцы асвятлення, не заўсёды ўдала аўтары справіліся з прасторай, і таму ў некаторых месцах задні план навісае над пярэднім; сям-там парушаны прапорцыі прадметаў натурнага плана з прадметамі, якія паказаны на палатне; недастаткова распрацаваны паасобныя чалавечыя постаці; не вельмі выразна вырашаны кампазіцыйныя ўстаўкі ў натурным плане і г. д.

І ўсё ж аўтары здолелі перадаць суровы гераічны дух эпапеі Вялікай Айчыннай вайны.

Барыс КРЭПАК.

«Запрашаю ў бухту Прывід. Толькі ўмова: экзотыкі не будзе. Звычайная Поўнач... М. Ф...»

Прозвішча я не разабраў.

## ВЫМУШАНЫ ПРЫПЫНАК

Неймаверна траскочучы гусеніцамі, наш транспарцёр упарта пераадольваў мокрую асеннюю тундру. Дарог тут мала—цяжка будаваць іх на вечнай мерзлаце. І таму, пакуль можна, па тундры ездзяць напрамкі, скарачаючы адлегласці і, зразумела, мотарэсурсы машын.

І вось што дзіўна: славутая гэта мерзлата, якую на мацерыку ўяўляеш сабе нейкім непарушным маналітам, у сапраўднасці, асабліва ў цёплыя месяцы, адтайвае на метр—паўтара і сустракае машыны тундравікоў то балотамі, прыкрытымі тамарыскам і буйна парослым шэламайнікам, то нечаканымі азёрамі, то проста густой чорнай жыжай, па якой, як кажуць, ні прайсці, ні праехаць.

Наш маршрут пралягаў па такой тундры. Мы спяшаліся на адзін з прыіскаў у даліне Танюрара, дзе некалькі дзён назад быў, як тут кажуць, «падняты» вялікі самародак.

— Паедзьце, паглядзіце,—сказаў сакратар парткома.—Для нас гэта справа звычайная. Лягчэй план выканаць па золаце. Ну, а для вас, прыезджых, цікава...

І вось мы—аператар Хабараўскай студыі кінахронікі Лёша Дзмітрыеў і я—вырашылі праскочыць туды на транспарце, які выпадкова трапіў пад руку.

Спачатку ўсё было добра. Намагаючыся перакрыць надрыўнае выццё матора і незмаўкальны пошчак гусеніц, мы крычалі адзін аднаму: «Глядзі, вунь карлікавая бярозка!» (Гэта на самай справе цікава—бярозка ў шэсцьдзесят—семдзесят сантыметраў вышыні!), «Глядзі, вунь сопка! Зусім, як у Ракуэла Кента!..»

Мой сусед намагаўся нешта здымаць (не ведаю, што ўжо ў яго там атрымалася!), а я толькі глядзеў па баках—хіба запішаш што-небудзь пры гэтай шалёнай гойданцы!

За камяністым восыпам ля падножжа старой, падрэзанай вятрамі і марозам сопкі раптам паказалася плоская даліна, якая цягнулася амаль да сінеючых на гарызонце гор. І тут аднекуль знізу пачуўся кароткі рэжучы гук. Транспарцёр рэзка тузануўся ўлева і застыў, як узмылены конь перад неадольнай перашкодай.

— Дрэнныя нашы справы!—сказаў вопытны Лёша. — Гусеніца лопнула. Пасядзім тут... Ах чорт, што ж я ўначы буду здымаць гэты самы самародак?—ён злосна паглядзеў на вадзіцеля.

— Так, братцы, гусеніца таго... Здала...—не звяртаючы ўвагі на аператара, спакойна сказаў той.—Буду рамантаваць! А вы пакуль схадзіце ў стойбішча. Тут яно побач, метраў чатырыста. Можа там што цікавае? А мне ўсё роўна не дапаможаце...

Стойбішча, што схавалася ў неглыбокім перападку, сустрэла нас гучным сабачым брэхам, вострым пахам вяленай рыбы—юколы—і дзесяткамі чорных цікаўных вачанят. Чукоцкія дзеці цікаўныя, як усе дзеці на зямлі. Можа крышачку больш за іншых: бо ў стойбішчах госці бываюць не так часта—хіба што з паштовым верталётам ці вось так, як мы,—з выпадковым транспарцёрам, які засеў у тундры.

Хутка паказаліся дарослыя. Наперадзе ішоў невысокі чукча са скуластым, выдубленым ветрам тварам. На шырокіх плячах яго добра сядзела карычневая кухлянка, абшытая рыжаватай футрай, з доўгімі махрамі ўнізе. За спіной—карабін і маток скручаных сырамятных рамнёў.

— Добры дзень! Я Сцяпан Ятыргін, брыгадзір. Добра, што прыехалі. Я ўжо дзве радыёграмы паслаў...—звярнуўся ён да нас.—Усё-такі не кожны дзень свята...

Мы здзіўлена пераглянуліся.

— Якое свята?

— Як—якое? Маладога аленя! Хіба не ведаеш?... Вунь, чуеш?..

З-за сопкі, ахутанай туманам, які хутка насоўваўся, чуўся непрывыклы для нашага вуха гук. Здавалася, там ідзе моцны град. Гук набліжаўся, множыўся. І вось ужо скрозь туман убачыў я голыя галінкі нейкіх незвычайных дрэў. Цэлы лес! А ў наступнае імгненне паваліўся на нас характэрны тупат сотняў капытоў, і велізарны статак імкліва ўварваўся ў даліну перад ярангамі.

У паветра ўзляцелі сырамятныя ласо (чааты—так называюць іх тут), і першыя алені, злоўленыя за рогі, апусцілі свае гордыя галовы.

Мой спадарожнік, забыўшы ўсё, не адрываўся ад камеры: «Якія кадры! Якія кадры!..»

— Вось бачыш, у самы раз трапіў!—ад задавальнення прыцмокваў языком Ятыргін.—Малайчына таварыш з Анадыра, прыслаў цябе...

Мы не сталі расчароўваць брыгадзіра. Ды ў яго і не было часу размаўляць з намі. Потым даведаліся, што Сцяпан не спаў ужо трое сутак. У адной лёгкай кухлянцы, без адпачынку і сну, гнаў ён вялікі табун, які адбіўся ад статку.

І вось алені тут. А сон?.. «Гэта глупства! У тундры спаць нельга. У тундры глядзець трэба!»

Сцяпан хутка разматаў свой чаат і кінуўся да статку. Энергічны кідок—і вось ужо бык-рагач з усіх сіл матае сваёй вялікай галавой. Рэмень з лахтачай скуры нацягваецца, як струна, правісае... Няўлоўныя рухі, радасны крык—бык паваленьі і ляжыць на рыжым ягелі. Да яго з усіх бакоў кідаюцца пастухі.

— ...Я даўно хацеў пабыць на такім свяце,—сказаў мне Лёша.—Уласна, аленям на ім не вельмі весела. Але чукчам—радасць! Глядзі, якое футра, якія рогі!.. За адзін дзень план выканаюць.

Да злоўленага быка падышла жонка Сцяпана—Ітырахтына (яна прасіла называць яе проста Ірай: «А то заблытаецеся»). Усміхаючыся, падклала пад галаву і спіну аленя некалькі карлікавых бярозак, папырскала морду і грудзі вадой. Такі старажытны звычай: няхай алень не злуе на чалавека...

Я распытваю Іру пра падрабязнасці гэтага звычаю. Яна весела смяецца, гарэзліва ўскінуўшы ўверх цэлы веер сваіх старанна заплеценых косак:

— Я ведаю, што вы напішаце... Да чукчаў, канечне, прыйшла культура, але ў іх яшчэ многа ад старога... Так?.. Звычай—ён цяпер, як,—яна пашукала параўнанне,—ну, як цацкі на вашых ёлках...

Калі праз некалькі гадзін мы сядзелі са Сцяпанам і яго жонкай за святочнай трапезай, я зразумеў, якія недарэчныя былі мае пытанні.

З намі гаварылі зусім сучасныя людзі—гасцінныя, добразычлівыя, крыху іранічныя. (Паспрабуй без іроніі паставіцца да прыезджага, які ва ўсім тут шукае або адкрытую экзотыку або адгалоскі старых, напаўзабытых звычаяў і абрадаў). Аказалася, што Сцяпан вучыцца на чацвёртым курсе сельскагаспадарчага тэхнікума, а наша мілая гаспадыня закончыла восем класаў і рыхтуецца паступіць у медыцынскае вучылішча. Яна вельмі любіць кнігі—у яранзе для іх спецыяльная скрынка. Любіць Сёмушкіна, Рытхэу, а больш за ўсё—вершы Віктара Кэулькута, які нарадзіўся і жыў у адным з суседніх стойбішчаў. Ну, хоць бы вось гэтыя... І яна нараспеў прачытала некалькі радкоў.

Па-руску вершы гучалі прыкладна так:

Иногда от людей я слышу,
Что у нас не житье, а горе:
Злые ветры срывают крыши,
Неуемно бушует море.
Ни весны, мол, здесь нет, ни лета...
Я отвечу:
— Неправда это!
...Замерзает бездельник всюду,
А увидит, что солнце светит,
И о солнце он скажет худо,
Красоты его не заметит.

Я шчыра парадаваўся за паэта. Незадоўга да маёй паездкі на Чукотку мы пазнаёміліся ў Маскве на творчым семінары. Разам са Сцяпанам Гаўрусёвым і Нілам Гілевічам, якія таксама былі ўдзельнікамі семінара, слухаў я гартанныя гукі незнаёмай мовы, чароўныя рытмы вершаў (Ітырахтына чытала іх у той манеры, што і аўтар). Хто мог ведаць тады, што жыццё яго абарвецца так рана!..

Лёша Дзмітрыеў адразу ж захацеў атрымаць «ударны» кадр: маладая жанчына-чукчанка чытае вершы чукоцкага паэта. Але яна не захацела пазіраваць:

— Не трэба... Гэта ж будзе,—як у вас кажуць,—па-ка-зуха.

І ўсмешка зноў засвяцілася ў вузкіх шчылінках чорных хітраватых вачэй.

А на шырокай даліне перад ярангамі ішла нялёгкая работа. Увесь час узляталі сырамятныя ласо. Усё новыя і новыя алені пакідалі статак...

Дарослым дапамагалі падлеткі. Мне асабліва запомніліся фарсун Віця Тэўлягыргін (яго кухлянка нагадвала модную футравую куртку) і спрытны Саша Тэўлякот (ён нядаўна атрымаў ад брыгадзіра карабін і цяпер адчуваў перавагу над сябрам, якому дасталася «жаночая» работа—чысціць рогі).

І яшчэ здзівіў мяне трохгадовы малыш Этыкэу. Ён важна разгульваў ля крайніх яранг, смела падыходзіў да статку і нібы прыцэльваўся сваімі вачанятамі. Малыш быў вельмі спакойны. Усё вакол прывычнае: ярангі, людзі, алешкі...

Спецыяльна падабраныя скуры сушыліся ля кастра. Да яго ўвесь час падбягаў уюотчык Рыгор Тыгетын.

— Наша самадзейнасць!—лаканічна растлумачыла Іра.

Сэнс яе слоў мы зразумелі крышку пазней. Тыгетын расказаў, што атрымаў у спадчыну ад бацькі рэдкую прафесію: ён робіць бубны. Праўда, шаманаў даўно няма на Чукотцы, але які ж канцэрт самадзейнасці можа абысціся без бубна? Вось і бегае Рыгор да кастра: вельмі сырая скура не падыходзіць, але ж і перасушыць нельга...

Потым мы чулі, як біў у бубен стары Адэль, як цягнуў ён бясконцую песню без слоў. А побач хлопцы і дзяўчаты, сабраўшыся ў круг ля катлоў з варанай аленінай, напявалі па-руску: «Падмаскоўныя вечары», сумавалі па рабіне, якую ніколі не бачылі...

Лёша выкарыстаў увесь запас плёнкі і гатовы быў кусаць локці: «Кадры!.. Якія кадры прападаюць!..» А вадзіцель, які прыйшоў сказаць, што ўжо даўно адрамантаваў злашчасную гусеніцу, усё спрабаваў даведацца:

— Ну што, паедзеце глядзець самародак?.. Ці будзем начаваць тут?..

Заканчэнне ў наступным нумары.

# ПЯШЧОТНАЯ



М. Залозны ў сваёй майстэрні.

гэта сведчыць кніга, у якой наведвальнікі выстаўкі пакідаюць свае водгукі. Тут іх дзесяткі аб «Маках». А адна жанчына з японскай дэлегацыі доўга шукала Залознага, каб набыць у яго якую-небудзь работу.

Канечне, Мікалаю Рыгоравічу гэта прыемна: усведамляць, што яго мастацтва патрэбна людзям.

Гады шуканняў не прапалі марна. Нездарма крытыкі гавораць зараз пра своеасаблівы залозна́ўскі почырк. У многіх яго карцінах пераважае чырвоны колер розных адценняў. Узяты прыгожа і асэнсавана, ён робіць выключна моцнае ўздзеянне. Палотны яшчэ здалёку прыцягваюць сваім светлавым, маляўнічым вырашэннем. А гармонія чырвоных тонаў у спалучэнні з ціхімі, прытушанымі фарбамі прымушае адчуваць нешта святочнае, насцярожліва-хвалюючае і сумнае.

Асаблівасць карцін Залознага яшчэ і ў тым, што яны нібы свецяцца знутры. Працуючы над тэхнікай, пастаянна эксперыментуючы, мяняючы каляровую гаму, ён адкрыў сабе новыя магчымасці адлюстравання. Таму такія натуральныя трывожна-зварушлівыя «Стажкі», імклівая «Бярэзіна», па-асенняму сумны «Парк», радасныя і жыццесцвярджальныя «Чайкі». Гледзячы на іх, мы «чытаем» думкі мастака і думаем самі.

— І фатограф сваім здымкам, дзе ўсё фіксуецца дакладна, можа многае сказаць, — кажа Мікалай Рыгоравіч. — А мастак абавязаны гэта зрабіць. Пасіўнае паўтарэнне натуры мала каго можа кранудь. Калі мы з вучнямі выязджаем на практыку, я не патрабую — адкрывайце эцюднікі і пішыце. Няхай ходзяць, глядзяць, запамінаюць тое, што ўбачылі. Потым гэта натура, прадуманая і асэнсаваная, стане іх споведдзю, а не ўрыўкам, вырваным з жывой прыроды.

Гаворачы пра маладых мастакоў, Залозны адзначае, што некаторым з іх не хапае ўпартасці, сілы духу. Не заключыў выстаўком дагавор, і ідзе жывапісец на мастацкі камбінат. Тут і работу знойдзеш, і грошы гарантаваны. Непрыкметна аддаляецца мастак ад сапраўднай творчасці, набліжаючыся да рамесніцтва. У пагоні за «доўгім рублём» адмаўляецца ад высокіх прынцыпаў творцы. Сам Залозны таксама не адразу атрымаў цяперашнюю светлую, прасторную майстэрню. Працаваў у невялікай каморцы, якую часова адвёў па дабраце душэўнай рэктар тэхналагічнага інстытута, пісаў і ў фае клуба будтрэста. Былі няўдачы, зрывы, расчараванні. Але жаданне служыць мастацтву, стаць майстрам узяло верх. Няўдачы загартавалі мастака, умацавалі яго веру ў сябе.

...Мастак паказвае свае апошнія, яшчэ не закончаныя работы. Тут і лірычныя эцюды, і карціна «Міншчына», і эскізы да вялікага палатна «Рабочыя», заказанага Саюзам мастакоў СССР, і карціна «Сям'я».

Зараз мірныя матывы сталі дамінуючымі ў творчасці Мікалая Залознага. А як жа ваенная тэма?

— Не, вайну ніколі не забыць. Нікому, — адказвае мастак. — Зноў і зноў будзе ажываць яна і яе героі ў літаратурных творах, скульптурах, на палотнах. І я абавязкова вярнуся да гэтай тэмы. Веру, што лепшая мая карціна аб вайне яшчэ не напісана.

Ён дастае эскіз да карціны, умоўна названы «Вызваліцелі». Ідуць па бруку салдаты ў плашч-палатках, якія развяваюцца на ветры, праводзяць іх жанчыны...

Дзесяткі карцін у Мікалая Залознага. Няма амаль ні адной выстаўкі, на якой мы не пазнаёміліся б з яго новымі работамі. У палатно майстар укладвае столькі, што для паказанага ім імгнення нам недастаткова такога ж імгненнага погляду. Моманты, спыненыя мастаком, становяцца гадзінамі радасці, якую адчуваеш заўсёды, калі сутыкаешся з мужным, добрым, чыстым.

Валерый ДОБКІН.

З пошты ЛіМа

## ВЯРНУЦЬ СТАРУЮ НАЗВУ

Расце наш Мінск, з кожным годам прыгажэе. Але нам дарагая і кожная рысачка, што характарызуе Мінск, як горад са шматвяковай гісторыяй. Гэта не толькі архітэктурныя помнікі, гэта і назвы вуліц і плошчаў, назвы, звязаныя з пэўнымі перыядамі гісторыі горада.

Між тым, у нас часам мяняюць назвы вуліц з незвычайнай лёгкасцю.

Быў некалі ў Мінску Брацкі завулак. Вайна неяк зліталася з яго, і захаваўся ён па сённяшні дзень. Толькі называецца ён зараз Музычным. Завулак гэты пралягае паралельна вуліцы Герцэна. Гэта ў раёне плошчы Свабоды, вуліцы Гандлёвай, адкуль, фактычна, пачаў будавацца новы Мінск.

Чаму некаму не спадабалася назва Брацкі, цяжка, вядома, высветліць. Ва ўсякім разе, чалавек, які хоць крыху знаёмы з гісторыяй Беларусі, ведае, што так званыя брацтвы, якія ўзніклі ў першай палове XV стагоддзя, былі цэнтрамі асветніцкай думкі, яны арганізоўвалі школы, бібліятэкі, дамы прытулку для беларускага насельніцтва. Менавіта з асяроддзя аднаго з брацтваў выйшаў Францішак Скарына.

Так што старая назва завулка і напамінала пра пэўны гістарычны кавалак нашай гісторыі. І раптам стаў ён называцца Музычным, хоць з музыкай нічога тут не звязана.

Мне здаецца, што трэба вярнуць завулку яго старую назву, і недзе ў пачатку яго на спецыяльнай дошцы, як гэта ў нас робіцца, паведаміць, адкуль ідзе назва «Брацкі».

І. БЕЛЯКОЎ.

**СЕЛЕТНІ канцэртны сезон у сталіцы Беларусі надзвычай інтэнсіўны: калектывы і салісты выступаюць амаль штовечар на ўсіх эстрадах горада. Меламаны нават скардзяцца: не паспець на кожную цікавую праграму, не «злавіць» усе папулярныя імёны. І сапраўды, калі адначасова даюцца канцэрты у філарманічнай, напрыклад, зале і ў зале музычнай школы, аматар музыкі, не адразу можа выбраць, куды яму пайсці сёння. Фестываль камернай музыкі і канцэрты ў гонар знамянальнай даты—50-годдзя стварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, вечары славутых лаўрэатаў сусветных і ўсесаюзных конкурсаў, дэбюты маладых выканаўцаў і гастролі замежных майстроў прыцягваюць увагу шматлікіх слухачоў. Не паспяваюць аператыўна адгукнуцца і рэцэнзенты. Сёння мы расказваем пра некаторыя канцэрты мінулага тыдня, які таксама быў вельмі разнастайны па жанрах выканаўчага майстэрства. Да ярка асветленых залаў у цэнтры горада і ў рабочых раёнах спяшаліся сотні заўзятых меламанаў і тысячы маладых аматараў музычнага мастацтва. Яны сустракаліся з хараством і багаццем чалавечага духу, адкрывалі для сябе прыгажосць людскіх мар і здзяйсненняў.**



# ВЫСОКІ КЛАС

АДНОЙ з самых яркіх старонак фестывалю камернай музыкі, які закончыўся ў нашай рэспубліцы, было выступленне Маскоўскага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Антона Шароева. Імя гэтага выдатнага музыканта ўжо добра вядома беларускім аматарам музыкі. Кіеўскі камерны аркестр, стваральнікам якога ў 1964 годзе быў Антон Шароеў, не раз гастраліраваў у многіх канцэртных залах краіны і за рубяжом. Украінскі аркестр карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод аматараў класічнай музыкі і меў добрую прэсу. У 1969 годзе ў Маскве быў арганізаваны яшчэ адзін камерны аркестр (першы, дарэчы,—шырока вядомы калектыў пад кіраўніцтвам Рудольфа Баршая). Мастацкім кіраўніком новага аркестра быў запрошаны з Кіева Антон Шароеў. За два гады сумеснымі намаганнямі музыкантаў і дырыжора быў створаны цікавы творчы калектыў. У яго рэпертуары — творы Баха, Гендэля, Бартака, Свірыдава, Б. Чайкоўскага. Прыйшоў і першы міжнародны поспех — паспяховыя выступленні на фестывалях камернай музыкі ў Плоўдзіве і Сафіі, удалыя гастролі ў Заходнім Берліне. І вось аркестр Антона Шароева перад беларускімі слухачамі. За час фестывалю з яго мастацтвам пазнаёміліся жыхары Гомеля, Гродна, Ліды і Мінска.

**Сваімі ўражаннямі ад канцэрта дзеліцца мастацкі кіраўнік Мінскага камернага аркестра Юрый Цырук:**

— З Антонам Шароевым я знаёмы яшчэ па яго выступленнях ў скрыпічным квартэце, дзе ён іграў разам з Рудольфам Баршаем, па рабоце з Кіеўскім камерным аркестрам. Трэба сказаць, што гэта работа дала тады выдатныя вынікі — украінскі калектыў вельмі хутка заваяваў папулярнасць і прызнанне. Тут хочацца, дарэчы, прывесці словы музычнага аглядальніка «Советской культуры», напісаныя пасля першых канцэртаў новага аркестра: «Рэдка якому з музычных калектываў у першыя ж месяцы творчага жыцця ўдалося дасягнуць такіх поспехаў, як Кіеўскаму камернаму аркестру». І вось сёння я пазнаёміўся з новым Шароевым — кіраўніком Маскоўскага камернага. Адразу скажу — гэта вельмі добры ансамбль, у які ўваходзяць выдатныя, чуйныя музыканты. Аркестр добра сыграны, яго вызначае дасканаласць сумеснага музыцыравання. Гэтага музыканты дабіліся за два гады работы. Такі кароткі тэрмін характарызуе Антона Шароева як выдатнага педагога. Праўда, у яго руках удзячны матэрыял — у аркестр былі запрошаны выпускнікі Маскоўскай кансерваторыі і Інстытута імя Гнесіных.

У канцэрце, які быў сыграны перад мінскай аўдыторыяй, Антон Шароеў яшчэ раз пацвердзіў свой высокі дырыжорскі клас. Гэта дырыжор эмацыянальны, ён тонка адчувае ўсе сэнсавыя нюансы твора, умее падкрэсліць іх. Бездакорна, напрыклад, была інтэрпрэтавана Сюіта № 2 сі-мінор Баха. Яе роўнае і ўзнёслае выкананне, узмоцненае сола флейтыста Леаніда Мірановіча, на маю думку, цалкам перадало дух бахаўскага твора.

Добра была сыграна і Музыка для камернага аркестра Георгія Свірыдава. Тут яшчэ раз пацвердзіліся лепшыя якасці аркестра: натуральнасць і арганічнасць музычных рашэнняў, строгасць формы, паўнаважкасць музычнай фразы. Хочацца адзначыць і сола валторны ў выкананні Міхаіла Фрайдмана.

Некалькі спрэчным здалася мне трактоўка аркестрам Дывертысмента для струнных Бартака. Мне здаецца, што гэты твор прагучаў празмерна экспрэсіўна. Іншы раз гэта нават перашкаджала Антону Шароеву дакладна перадаць увесь аўтарскі тэкст. Такіх адносін да тэксту хацелася б і ў Шасцігалосым рэчыркары з «Музычнага дару» Баха...

АРКЕСТР Антона Шароева даў у беларускай сталіцы ўсяго адзін канцэрт — першы канцэрт. Будзем жа спадзявацца, што гастрольныя дарогі не раз яшчэ прывядуць гэты цудоўны калектыў на сцэну Беларускай філармоніі.

# ПОСПЕХАЎ У ДАРОЗЕ

*Каўнаўскі дзяржаўны хор існуе ўсяго другі сезон. Мастацкі кіраўнік хору — Пятрас Бінгаліс, хормайстар — Альгімандас Мішэйціс. У праграме — творы класікаў літоўскай музыкі Чурлёніса і Груодзіса, сучасных літоўскіх аўтараў, заходняя, руская і савецкая харавая музыка. У снежні гэтага года хор выканае славуты «Рэквіем» Моцарта.*

*Паездка ў сталіцу Беларусі — адна з першых паездак калектыву за межы рэспублікі. Канцэрт літоўскіх спевакоў прынёс сапраўдную асалоду беларускім аматарам харавых спеваў.*

*Уражаннем ад выступлення Каўнаскага дзяржаўнага хору дзеліцца мастацкі кіраўнік хору Беларускага тэлебачання і радыё, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Віктар Ройда:*



*— Калектыў, здаецца, вельмі перспектыўны. Яго поспех, на маю думку, гэта ў першую чаргу — вернасць вялікім традыцыям літоўскага харавога спявання. Аб тым, як беражліва нашы літоўскія сябры захоўваюць гэтыя традыцыі, як іх памнажаюць, гаварыць не трэба—гэта агульнавядома.*

*Што прываблівае ў Каўнаскім хоры? Перш за ўсё — свежасць, маладосць і «роўнасць» галасоў. Хор спявае ў манеры «нон вібрата». Гэта дае магчымасць вырашыць праблему чысціні строю і акордаў. Да «плюсаў» хору трэба дадаць і добры баланс харавых партый, добрае акорднае гучанне. Неабходна адзначыць і бездакорную дыкцыю хору, шырокія маштабы харавога гучання: ад тонкага піянісіма (у «Калыханцы» Брамса) да моцнага фарцісіма (у фінале хору з 1-й сімфоніі Скрабіна «Слава мастацтву»).*

*Спадабалася мне і праграма канцэрта, асабліва яго другая частка, складзеная з твораў літоўскіх аўтараў розных гадоў. Вельмі цёпла, «з сэрцам» выкананы літоўскія прыказкі і прымаўкі на музыку Дварыёніса і Баранзайтэ. Хор паказаў высокую тэхніку і здолеў, на мой погляд, цалкам вырашыць пастаўленыя аўтарамі задачы.*

*Прыемным сюрпрызам была беларуская народная песня «Павей, вецер» у апрацоўцы Пукста. Выдатна выканала яе салістка Анілора Буяўскіне. Дырыжору Мішэйцісу ўласціва глыбокае пранікненне ў музычны вобраз. «Упісаўся» ў ансамбль і наш добры знаёмы, арганіст А. Васіляйскас. Ён віртуозна выканаў творы Баха і Чурлёніса.*

*Каўнаскі дзяржаўны хор выйшаў на шырокі творчы шлях. Пажадаем жа нашым сябрам поспехаў у дарозе.*

# МОВАЙ БАРТАКА І РАВЕЛЯ

Вось ужо сорак гадоў, калі гаворка заходзіць пра сучасную французскую камерную музыку, абавязкова называюць імя Лёвенгута. Менавіта чатыры дзесяцігоддзі таму выпускнік Парыжскай кансерваторыі, скрыпач Альфрэд Лёвенгут стварыў скрыпічны квартэт, якому давялося стаць адным з самых вядомых камерных ансамбляў Францыі. За гэтыя гады квартэт стаў сталым, вопытным, калі так можна сказаць, «стабільным» калектывам. У яго рэпертуары самыя складаныя творы Дэбюсі, Равеля, Бетховена, сучасных французскіх кампазітараў. Высокі мастацкі густ і музычны клас квартэт Лёвенгута не раз пацвярджаў у час гастрольных паездак (а ён аб'ездзіў амаль увесь свет). Французскія музыканты ігралі на сусветна вядомых фестывалях у Зальцбурзе, імя Пабла Казальса ў Прадэ, Плоўдзіўскім у Балгарыі, Берлінскім і Пражскім фестывалях.

І вось — упершыню гастролі ў СССР. Канцэрт у Мінску, сустрэча з беларускімі аматарамі камернай музыкі. Адзначым адразу — канцэрт артыстаў з берагоў Сены прайшоў з велізарным поспехам. Высокая тэхніка, артыстызм, тонкае выканаўчае майстэрства французскіх музыкантаў магло задаволіць самага патрабавальнага слухача. Квартэт вельмі добра сыграны. Кожны з членаў ансамбля — выдатны саліст, віртуозна валодае інструментам і ў той жа час падпарадкоўвае сваё майстэрства адзіным ансамблевым задачам.

Пасля канцэрта карэспандэнт «ЛіМа» сустрэўся з французскімі музыкантамі і задаў ім некалькі пытанняў.

— Перш за ўсё чытачам штотыднёвіка хацелася б крыху бліжэй пазнаёміцца з удзельнікамі квартэта.

— У гэтым складзе мы іграем усяго чатыры гады, калі да нас прыйшоў наш самы малады музыкант — другая скрыпка Жан-П'ер Сабурэ,— расказвае альтыст Ражэ Рош. — Віяланчэліст Ражэ Лёвенгут у калектыве пятнаццаць гадоў, а я — ужо дваццаць сем. Усе мы вучыліся ў Парыжскай кансерваторыі, вядома, у розныя гады. І ўсе атрымалі ў свой час пры заканчэнні першую прэмію. Заснавальнік квартэта Альфрэд Лёвенгут — не толькі музыкант-выканаўца, але і дырыжор, педагог. У яго сем аркестраў, у якіх іграюць музыканты ад 5 да 20 гадоў. Гэта яго вучні, «аднадумцы». 60 вучняў у Ражэ Лёвенгута. Альфрэд Лёвенгут яшчэ, дарэчы, і прэзідэнт французскага таварыства аматараў камернай музыкі.

— Мінскім слухачам спадабалася не толькі ваша віртуозная ігра, але і цудоўныя, прыгожыя інструменты, якія гучаць мякка і на дзіва чыста. Нехта нават выказваў думку, што скрыпка Альфрэда Лёвенгута зроблена славутым Страдзівары...

— Гэта нам гавораць ужо не ўпершыню. — У гутарку ўступае Ражэ Лёвенгут. — Не, гэта зусім сучасныя інструменты, яны зроблены ў Парыжы дзесяць гадоў таму французам Міланам. Што ж, як бачыце ёсць яшчэ добрыя майстры!

— Пытанне мсье Альфрэду Лёвенгуту як прэзідэнту таварыства аматараў камернай музыкі. Як вы ацэньваеце сучасны стан камернай музыкі?

— Ёсць шмат добрых, выдатных музыкантаў і ансамбляў. Расце папулярнасць камернай музыкі. А вось кампазітары, на маю думку, не паспяваюць за гэтым. Пасля Бэлы Бартака настаў нейкі застой. Замест музыкі сучасныя кампазітары прапануюць нам іграць і слухаць нешта такое... (Альфрэд Лёвенгут бярэ некалькі акордаў-дысанансаў). А гэта не музыка!

— Здаецца, Гайдн сказаў, што квартэт — гэта гутарка чатырох разумных людзей. За столькі гадоў у вашага квартэта з'явілася, пэўна, агульная мова, ёсць нейкія традыцыі...

— Вядома ж, ёсць. І галоўная традыцыя — іграць толькі добрую музыку, гаварыць разумнай, зразумелай людзям мовай, мовай Бартака, Равеля, Шастаковіча.

**Барыс ГЕРСТАН.**



# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

## БАЙКІ Ў ПРОЗЕ

### ЖАБЯНЯ



«І піць будзем, і гуляць будзем, а час прыйдзе — паміраць будзем!» — зухавата спявала маладое жабяня пасля першай зарплаты.

Спявала яно гэту песню і пасля другой, і пасля трэцяй... Доўга спявала, трацячы сілы і здароўе. А калі прагульвала ўсе грошы, марыла: «Вось бы дачакацца такога жыцця, каб у спіртным купацца...»

І дачакалася: заспіртаванае, яно цяпер стаіць у заалагічным кабінеце.

### У КАГО ДАЎЖЭЙШЫ ХВОСТ



Неяк да сарокі ў госці розныя птушкі зляцеліся. Добранька пачаставаўшыся, пачалі аб розных рэчах балбатаць. Затым, жартуючы, паспрачаліся — у каго даўжэйшы хвост... Доўга адна адной паказвалі свае хвасты, прымервалі, але так і не маглі рашыць, у каго ён даўжэйшы.

А праз дзень гэтая дробязная гісторыя ўсяму лесу вядома стала: сарока на хвасце разнесла... Дык вось у каго даўжэйшы хвост!

**Я. ІВАНОЎ.**

## МІМАХОДЗЬ

**П. ШЫБУТ**

☐ *Не ўсе шукаюць ісціну—некаторыя яе хаваюць.*

☐ *Век жыві, век вучыся. А працаваць калі?*

☐ *Музыкі не любіў, але скакаў пад любую дудку.*

☐ *Толькі ў чарзе ён быў першы, і то не заўсёды.*

☐ *Не трэба забываць, што Праметэй даў агонь даросламу, а не дзіцяці.*

☐ *Да многага даходзіў не розумам, а нагамі.*

☐ *Зрабіць крок наперад можна і седзячы.*

☐ *Папугай не баіцца, што яго назавуць плагіятарам.*

☐ *Цяжка Гуліверу-падхаліму, калі ў яго начальнік—ліліпут.*

☐ *У кожнага свая галава на плячах, але не ў кожнага свой розум.*

☐ *Некралог — характарыстыка на той свет.*

☐ *Сучасны яблык разладу—цешча.*

**І. БАРКОЎ**

☐ *Яго прызванне — збядняць чужыя думкі.*

**У. РУДЗІНСКІ**

☐ *Схільнасць падслухоўваць выдаваў за імкненне прыслухоўвацца да грамадскай думкі.*

☐ *Замест таго, каб павышаць свой культурны ўзровень, павышаў голас на падначаленых.*

☐ *У прысутных на сходзе быў адсутны позірк.*

☐ *Чуць звон, ды не ведаць, дзе ён—гэта чокацца пасля пятай чаркі гарэлкі.*

☐ *У даўгі ўваходзіў, а з даўгоў вылазіў.*

**У. ДАНІЛАЎ**

☐ *Дзеля вас ён гатоў рызыкаваць жыццём. Вашым.*

☐ *Ставіў толькі адну ўмову—яго загады выконваць безумоўна.*

☐ *У роспачы ірваў валасы на галаве суседа.*

☐ *«Ён усё жыццё нясе свой крыж», —гаварылі пра павука-крыжавіка.*

☐ *Запальваў сэрцы супрацоўнікаў воклічам: «Гарыць план!»*

**Валянцін БЛАКІТ**

## ПАЛЯЎНІЧАЕ ШЧАСЦЕ

Грамадзяніна народны суддзя! Грамадзяне народныя засядацелі! Высокі суд! Як на споведзі кажу: ні я, ні мае таварышы — падсудныя Рыгор Габруська, Лявон Брамка, Антось Нехвядовіч, Адась Серпужыцкі — ні ў чым не вінаваты. Адбылося страшэннае непаразуменне. І вось як. Значыцца, купілі мы ліцэнзію на адстрэл лася. Калі не верыце, то ёсць квітанцыя на пяцьдзесят рублёў. Мы ж не якія-небудзь там браканьеры... Таварыш адвакат можа пацвердзіць...

Дык вось, на досвітку ўзялі стрэльбы, патроны і законна пайшлі на лася. А ў нашым лесе рагатых развялося столькі, што дзяцей страшна стала па ягады ці грыбы пускаць: палохаюць! Асмялелі, па вёсцы шпацыруюць. Ідзе каторы сабе гэтак важна, на панадворкі заглядвае, а на сабак—ноль увагі. Нібы, паскуднік, газеты тыя чытае—ведае, што паляўнічы сезон не пачаўся, а, значыцца, яго ніхто не кране.

А тут ужо і паляўнічы сезон у разгары, і ліцэнзія ў кішэні і — не шэнціць! Увесь дзень прашвэндаліся па гушчарах—і хоць бы адзін на вочы трапіўся. Злосць разбірае. К вечару з сіл выбіліся, прагаладаліся, як ваўкі ў піліпаўку. Рашылі падсілкавацца. Канечне, што хаваць, быў грэх — кульнулі па шклянцы-другой, а мо і болей — хто там лічыў? Змяркацца стала.

Плюнулі на ўсё ды дамоў... Ідзём сабе, песню зацягнулі. Ужо і агні вёскі паказаліся. Аж раптам! Пад самым носам, у якіх дзесяці кроках стаіць рагаты! На нас — ніякай увагі. Павярнуўся да вёскі, нібы раздумвае: зазірнуць яму на агеньчык ці не... Мы, натуральна, за стрэльбы. Вось яно, паляўнічае шчасце! Ну, пастой, пастой, галубок. Пастой, родненькі. Цяпер нікуды не ўцячэш!

Адкрылі агонь. Смалім у восем ствалоў, а ён—хоць бы што... Нібы прырос да зямлі. Ужо і патроны скончыліся, а лось стаіць, быццам над намі насміхаецца. Тут мы проста звар'яцелі ад злосці. Ах ты, страшыдла ляснное! Мы ж табе пакажам... Я кінуўся да лася—і што сілы прыкладам: у пысу, у пысу...

Ну, што далей было — вы ведаеце. Так што дарма да нас грамадзянін пракурор чапляецца. Кажаце, разбілі, пашкодзілі? Дык ці ж маглі мы ведаць, што іменна ў гэты дзень на ўскрайку лесу паставяць... скульптуру лася?

І судзіць нас няма ніякай падставы. Якія ж мы хуліганы?! Мы, можна сказаць, ахвяры. Я амаль новую стрэльбу паламаў, вунь Антось і цяпер з забінтаванай рукой сядзіць — пакалечыў, калі ў гэтага ...лася пырнуў. Родным дзецям сорамна ў вочы глядзець. Уся вобласць смяецца з нашага палявання. Білеты паляўнічых і стрэльбы міліцыя ў нас паадбірала. Ды і ліцэнзія цяпер—цю-цю!.. Пяцьдзесят рублёў, як у яму, выкінулі... Каго ж судзіце?

## МЕТАДАМ ПАРАЎНАННЯ

— Я думаю, Вілі, што гэты рэспубліканец Рычард збіраецца застацца ў сенаце яшчэ на адзін тэрмін.

— А што, Майкл, ты гутарыў з ім ці што-небудзь у прэсе вычытаў?

— Не, я кіруюся іншым.

— Цікава, чым? Што ў цябе за метад разгадваць планы нашых сапернікаў?

— Гэты сенатар Рычард зноў абяцае выбаршчыкам малочныя рэкі і манную кашу з неба.

— Ну, і што з таго?

— Як што?! Я і сам так рабіў, калі збіраўся застацца яшчэ на адзін тэрмін у сенаце.

**М. ДУБОЎСКІ**

## ГАНАРЛІВАСЦЬ

— Без нас як вы б
На свет глядзелі? —
Вачам сказалі акуляры
І ...тут жа запацелі.

**В. ТКАЧОЎ.**

## З УЗБЕКСКАГА НАРОДНАГА ГУМАРУ

Махляр на хітрага ката
Падобны часам бывае:
То ціхі ён, як сірата,
То кіпці раптам выпускае.

Пераклаў В. ЛАЎРЫНОВІЧ.

## ЦЫТАТЧЫК

Ён у дакладах ужываць
Любіў цытат настолькі многа,
Што... сам сябе стаў цытаваць
І абакраў—сябе самога.

**М. ВЯРШЫНІН.**

**Анатоль ПАТАМКОЎСКІ**

## Перастрахоўшчыкі



Па віне маладой машыністкі ў даведцы на імя грамадзяніна Бяспальчыка была дапушчана недакладнасць: даведка была выдадзена Пяспальчыку. Бяспальчык звярнуўся да рэферэнта.

— Я б хацеў гэта выправіць, — сказаў ён.

— Напішыце заяву, — сказаў рэферэнт. — Я далажу начальніку заўтра.

— Навошта турбаваць начальніка? — здзівіўся Бяспальчык. — Усё ж тут і так ясна.

— Безумоўна, — адказаў рэферэнт. — Асабіста мне абсалютна ясна. Я б усё ўладкаваў за адну мінуту, але мой начальнік ідыёт... Ён абавязкова прычэпіцца.

Бяспальчык накіраваўся да начальніка і растлумачыў яму сутнасць справы.

— Звычайная няўважлівасць машыністкі, — сказаў начальнік. —Не варта браць блізка да сэрца. Загадчык улічыць. Я перадам яму ўсё, як вы мне расказалі.

— Загадчык?

— Так, — адказаў начальнік,— на жаль. Мне ваша справа абсалютна ясная, але загадчык такі крэтын... Можаце мне паспачуваць...

Загадчык прыняў Бяспальчыка на другі дзень.

— Недарэчная гісторыя, — сказаў ён, выслухаўшы тлумачэнні.— Я ўсё зраблю. Дырэктар не будзе ствараць перашкод.

— Дырэктар?!—усклікнуў Бяспальчык.

Загадчык развёў рукамі.

— Калі б гэта ад мяне залежала. Я вас добра разумею: дробязь, пустая фармальнасць. Але дырэктар прыдуркаваты. Ён можа потым паставіць пытанне...

Бяспальчык пайшоў да дырэктара. Дырэктар адразу ж выправіў недакладнасць самапіскай і вярнуў Бяспальчыку дакумент.

— Прашу прабачэння, што турбаваў вас такой дробяззю, — сказаў Бяспальчык.

— Нічога не зробіш,—сказаў дырэктар.—Вы самі бачыце, у якіх умовах я працую. Усе мае падначаленыя — разумова недаразвітыя! Кроку без мяне ступіць не могуць.

Калі вечарам Бяспальчык расказаў нам пра гэта ў «Какосе», Зыля зазначыў:

— Ва ўсёй гэтай гісторыі сапраўдны крэтын ты. Чаму ты сам не выправіў памылку?

З польскай
пераклаў **М. НАВІЦКІ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 08847

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —33-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.